Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№50 (4594) 17 снежня 2010 г.





Да 15-годдзя дзейнасці спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі прымеркавана Рэспубліканская выстаўка работ лаўрэатаў, дыпламантаў і стыпендыятаў гэтага фонду. Адкрылася яна ў сталічнай мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" тыдзень таму, працаваць будзе да 5 студзеня, так што яшчэ можна (і варта!) знайсці час для знаёмства з творчасцю нашых маладых і "самых-самых-самых". Графічнымі работамі ў розных тэхніках, жывапіснымі палотнамі, скульптурнымі кампазіцыямі, мастацкімі фота, батыкам, выцінанкай і габеленам прадстаўлены 41 аўтар. Узрост экспанентаў — ад 11 да 31 года: навучэнцы дзіцячых школ мастацтваў, студэнты, маладыя выкладчыкі, нават члены Беларускага саюза мастакоў.



# Ёсць мары — і крылы!

Маляўнічы і змястоўны, з густам зроблены каталог, пра выданне якога таксама паклапаціліся арганізатары вернісажа (Міністэрства культуры краіны, спецыяльны фонд Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі, БДУ культуры і мастацтваў), адкрываецца прадмовамі старшыні Савета спецыяльнага фонду Ніны Мазай і старшыні экспертна-мастацкай камісіі фонду — Міхала Баразны. У словах гэтых вядомых асоб, як і ў выступленнях удзельнікаў урачыстага адкрыцця выстаўкі — у прыватнасці, першага намесніка міністра культуры Беларусі Уладзіміра Карачэўскага і лаўрэата фонду, выпускніцы Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Вольгі Мельнік, — вылучаецца галоўная пазітыўная думка. Думка пра тое, што традыцыйны выставачны праект, у якім удзельнічае даравітая і перспектыўная творчая моладзь з усіх рэгіёнаў, заахвочаная спецыяльным фондам, — яшчэ адно пацвярджэнне ўвагі дзяржавы да будучыні культуры нашай краіны. Моладзь адчувае падтрымку на самым высокім узроўні, а гэта надае ўпэўненасці, заахвочвае творчы рост, акрыляе мары таленавітых асоб — такіх датклівых, унутрана безабаронных і крохкіх... Важна і тое, што дзяржава імкнецца не толькі шукаць таленавітых дзяцей, забяспечваць ім умовы для спецыяльнай адукацыі, творчага развіцця, прафесійнага ўдасканалення: сёння ўвага звернута ўжо і на тое, каб стварыць маладым прафесіяналам годныя ўмовы для далейшай працы, каб яны адчувалі сваю запатрабаванасць на радзіме і сваім талентам спрыялі росквіту яе культуры.



Самі работы, выстаўленыя ў галерэі, сведчаць: будучыня ў нашага мастацтва прыгожая, годная. Зорная! Сапраўды, шпацыруючы па галерэі, міжволі прыпыняеш крок ля твораў, аўтары якіх, нягледзячы на свой малады ўзрост, некалькі гадоў таму заззялі на беларускім арт-небасхіле яркімі зорачкамі ды яшчэ прыцягнулі ўвагу журы прадстаўнічых міжнародных конкурсаў. Зрэшты, талент пазнаеш не па ганаровых званнях, не па конкурсных лаўрах. Так некалі, зусім выпадкова, мы адкрылі для сябе і для чытачоў "ЛіМа" імя студэнткі БДАМ Алесі Скорабагатай — удумлівага і высокатэхнічнага аўтара жывапісных партрэтаў і нацюрмортаў, чые новыя карціны ("Хочаш кавы?", "Не разбіўся", "Востры нацюрморт", "Снукер", "Танец светлячкоў"), дарэчы, упрыгожылі сёлетнюю экспазіцыю праекта "Зямля пад белымі крыламі" ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі... Хто яшчэ з маладога сузор'я? Дзяніс Іваноў, 17-гадовы стваральнік батыкаў з выявамі архітэктурных беларускіх святыняў, пераможца конкурсу "Зорка ўзышла над Беларуссю", навучэнец Рэспубліканскай гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. Ахрэмчыка. Мікола Купрыч, студэнт БДАМ, чые фотаработы адзначаныя залатым медалём VI Адкрытых маладзёжных Дэльфійскіх гульняў краін-удзельніц СНД. Дар'я Мазоўская, 16-гадовая навучэнка Дзіцячай школы мастацтваў з Оршы, чый батык гучыць гэтак аптымістычна і дасціпна: "Вясна. Каты прыляцелі!". Таццяна Сасунова, 14-гадовая прадстаўніца Крычаўскай ДШМ. Валерыя Амяльчук, 11-гадовая школьніца са старажытнай "некаранаванай сталіцы Беларусі", чыя акрылавая кампазіцыя "Мелодыя майго сну" ўразіла нас на сёлетнім фестывалі "Музы Нясвіжа": дзяўчынка "пачула" (ці ўбачыла?), як з напеву казачнай флейты нараджаюцца матылькі ды кветкі...

Сярод самых яркіх экспанентаў — выхаванкі акадэміі Вольга Мельнік, Ганна Конанава, выкладчыкі Алесь Шаціла (БДУКіМ), Кацярына Сумарава (мінская ДШМ №3), Піліп Баразна (Рэспубліканская гімназія-каледж мастацтваў імя І. Ахрэмчыка), дырэктар сталічнай галерэі "Палац мастацтва" Аляксандр Зінкевіч...

Вядомы творца і даследчык, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхал Баразна, звяртаючыся да ўдзельнікаў праекта, сказаў: "Без выхавання майстэрства, творчага падыходу, умення вольна думаць, бачыць і выяўляць жыццёвыя з'явы, без актыўных пошукаў пластычнай формы немагчыма прыйсці да стварэння глыбокіх выяў. Мы чакаем ад маладых аўтараў новых таленавітых і яркіх твораў, якія ўсхваляюць прыгажосць роднай прыроды і гісторыю краіны, адлюстроўваюць лепшыя рысы сучасніка, багацце духоўнага свету беларускага народа. Ва ўзаемадзеянні майстроў выяўленчага мастацтва з прадстаўнікамі маладога пакалення, якія ўжо заўтра будуць вызначаць стан айчыннай культуры, фарміруюцца не толькі прафесійныя веды, але і стаўленне да сэнсу творчай дзейнасці. Упэўнены, што і ў новым годзе юныя мастакі праявяць творчае гарэнне, нязгасную любоў і павагу да старажытнай і вечна маладой Беларусі, яе святла, яе традыцый".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ





На здымках: Алесь Шаціла "Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч" (гіпс таніраваны); Ганна Конанава "Мой дом у Магілёве" (палатно, алей); Таццяна Сасунова "Каля сажалкі" (шоўк, батык); Вольга Мельнік "Двубой", частка дыпціха (дрэва, ляўкас).

Фота аўтара

## Пунктірам

• 25 чалавек з розных рэгіёнаў Беларусі ўдастоены дзяржаўных узнагарод. Сярод іх — дзеячы культуры і мастацтва. Ордэнам Айчыны III ступені ўзнагароджана прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Тамара Ніжнікава. Медаль Францыска Скарыны ўручана дырэктару Брэсцкага ліцэя № 1 імя А. С. Пушкіна Святлане Самёнавай і дацэнту кафедры спеваў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Ірыне Шыкуновай.

• Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Уладзіміра Шаінскага з 85-годдзем. Пра песні Шаінскага ў віншаванні сказана, што іх "ведаюць, любяць і спяваюць дарослыя і дзеці".

• Аляксандр Лукашэнка прысутнічаў на заключным гала-канцэрце рэспубліканскай грамадска-культурнай акцыі "Беларусь — гэта мы!" Акцыя распачалася ў лютым гэтага года. Яе канцэптуальнай ідэяй з'яўлялася аб'яднанне жыхароў усіх рэгіёнаў і прадстаўнікоў усіх слаёў беларускага грамадства, умацаванне агульных каштоўнасцей — любові да Айчыны, гонару за сваю краіну і культуру. Усяго ў канцэртах акцыі было занята больш як 500 артыстаў, а пабывала на іх больш за 15 тысяч гледачоў.

• Стыпендыі Прэзідэнта Беларусі на 2011 год прызначаны 92 таленавітым маладым навукоўцам. Сярод стыпендыятаў 9 дактароў навук ва ўзросце да 45 гадоў, 61 кандыдат навук ва ўзросце да 35 гадоў, 22 маладыя навукоўцы без ступені ва ўзросце да 30 гадоў. У ліку лаўрэатаў 25 прадстаўнікоў тэхнічных навук, 28 — біялагічных і медыцынскіх навук, 24 — прыродазнаўчых навук і 15 прадстаўнікоў гуманітарных навук.

• Духоўная праграма Першага канала "Існасць" узнагароджана дыпломамі і медалём на прэстыжных фестывалях. Сярэбраны медаль і дыплом — за тэлефільмы "Алена Палонская" і "Сержык Старк" яна атрымала на XV Усерасійскім фестывалі "Праваслаўе на тэлебачанні, радыё і ў друку" (Санкт-Пецярбург). Другі дыплом "Існасці" далі на Міжнародным фестывалі "Кінапрэм'ера на Вятцы" (Кіраў) за фільм-эсэ "Аддай, што набыў ты, і бедным не будзеш". Аўтар і рэжысёр усіх трох фільмаў — Ала Салаўёва.

• Першы кінапраект Саюзнай дзяржавы, фільм "Брэсцкая крэпасць", плануецца вылучыць на прэмію "Оскар" у 2011 годзе. Фільм карыстаецца вялікай папулярнасцю ў гледачоў і, на думку яго стваральнікаў, адпавядае ўсім крытэрыям міжнароднага кінафестывалю "Оскар". У лютым жа 2011 года кінастужка будзе прадстаўлена ў Дзярждуме Расіі.

• Адразу некалькі залаў было вылучана Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэяй для выстаўкі работ беларускага мастака Івана Хруцкага. Вернісаж пад назвай "Іван Хруцкі: мастацтва ў дыялогу культур" стаўся прымеркаваным да завяршэння Года культуры Беларусі ў Расіі. У экспазіцыю ўвайшлі 32 парсуны: 23 — з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі і 9 — са збораў Траццякоўскай галерэі.

• Гран-пры Міжнароднага фестывалю сучаснай харэаграфіі ў Віцебску дастаўся салістам Дзяржаўнага ансамбля танца Кітайскай народна-вызваленчай арміі за пастаноўку "Асэнсаванне". У намінацыі "Аднаактовы балет" першую прэмію атрымалі танцоры з эстонскага Таліна. Лепшай харэаграфічнай мініяцюрай прызнана работа тэатра сучаснай харэаграфіі D.O.Z.SK.I. з Мінска. Лепшым харэографам фестывалю прызнаны беларус Дзмітрый Залескі.

Падрыхтавала Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# На прафесійным узроўні

Да справаздачна-выбарчага сходу Мінская абласная арганізацыя Саюза пісьменнікаў Беларусі прыйшла ў складзе 48 чалавек. Вынікам работы за чатыры гады стала выданне 70 кніг, шэраг яркіх мерапрыемстваў, накіраваных на ўзняцце прэстыжу пісьменніцкай працы, курыраванне літаб'яднанняў самадзейных і маладых аўтараў і, безумоўна, узнагароды рэгіянальнага, рэспубліканскага, міжнароднага ўзроўню, атрыманыя паэтамі і празаікамі Міншчыны за лепшыя творы.

Сярод членаў арганізацыі пяць чалавек — лаўрэаты прэміі Мінскага аблвыканкама ў галіне літаратуры, адзін — лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Ёсць таксама лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне" і лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. У сваім дакладзе старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Рыгор Сакалоўскі адзначыў, што асаблівы трыумф выпаў на долю творцаў Міншчыны на Дні беларускага пісьменства ў Хойніках, дзе ажно чатыры аўтары былі адзначаны дыпломамі розных ступеняў на Рэспубліканскім творчым конкурсе на лепшы твор года.

Пісьменнікі Мінскага абласнога аддзялення друкуюцца ў літаратурна-мастацкіх часопісах Беларусі, у маскоўскіх выданнях "Наш современник", "Российский колокол", на старонках рэспубліканскіх і абласных газет, у калектыўных зборніках. Асаблівасцю дзейнасці арганізацыі з'яўляецца шчыльнае супрацоўніцтва з Саюзам журналістаў і сумесны з журналістамі ўдзел у розных асветніцкіх мерапрыемствах. Яркім сведчаннем таму стала патрыятычная акцыя, прысвечаная 70-годдзю Мінскай вобласці, "Ты ў сэрцы, Міншчына родная!". Пісьменнікі і журналісты праехалі па маршруце Узда — Слуцк — Валожын — Копыль — Вілейка — Жодзіна — Заслаўль — Любань, выступаючы перад жыхарамі гэтых раёнаў і дорачы свае кнігі. Члены абласной пісьменніцкай арганізацыі ўдзельнічалі таксама ў Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, у Днях беларускага пісьменства, у свяце паэзіі ў Стоўбцах, прысвечаным 125-годдзю з дня нараджэння Я. Коласа, у правядзенні VII абласнога злёту маладых паэтаў Міншчыны "Нас слова Купалы да творчасці кліча", у Днях рускай паэзіі ў Брэсце.

За чатыры гады, згодна Статуту, праведзена чатыры выніковыя сходы пісьменнікаў Міншчыны. Савет аддзялення імкнуўся да таго, каб праводзіліся яны не толькі ў сталіцы, але і ў рэгіёнах. Незвычайна цікава прайшоў пісьменніцкі збор у Жодзіне, дзе літаратары між іншым наведалі воінаў-чыгуначнікаў і паўдзельнічалі ў "круглым стале" "Патрыятызм і літаратура". Падчас збору ў Слуцку пісьменнікі наведалі вайсковую часць. Добры рэзананс атрымаў збор на базе ДАСААФ краіны. Члены саюза пісьменнікаў не толькі падвялі вынікі, але і наведалі музей авіяцыйнай тэхнікі, і нават у неба ўзняліся. Незабыўнай была паездка групы пісьменнікаў Міншчыны на адну з пагранзастаў Гродзенскага пагранатрада. Члены Мінскага абласнога аддзялення былі ўключаны ў склад дэлегацыі Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы на пленум у Курску.

Работа Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі была прызнана ўдзельнікамі справаздачнага сходу задавальняючай. Рыгор Сакалоўскі аднагалосным рашэннем застаўся і надалей кіроўцам арганізацыі. У Савет акрамя яго ўвайшлі Зіновій Прыгодзіч, Валянціна Гіруць-Русакевіч, Леанід Крываное, Барыс Далгатовіч, Анатоль Смалянка, Вольга Савасцюк. Вылучаны былі таксама дэлегаты на З'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Прынятыя ў СПБ



Ганна Іосіфаўна СКАРЖЫНСКАЯ-САВІЦКАЯ, дзіцячая пісьменніца

Нарадзілася 3 жніўня 1966 года ў в. Куцы Лес Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла Гродзенскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум. Працуе ў таварystве з абмежаванай адказнасцю "З-СБ" майстрам вытворчага ўчастка. Піша казкі, апавяданні і вершы для дзяцей, суправаджаючы свае творы ўласнымі малюнкамі. Аўтар кніг "Вечарынка" (2008), "Приключения хомячка Тошки" (2010), "Расінка і Сонечны зайчык" (2010).



Таццяна Віктараўна СОЧНЕВА, празаік

Нарадзілася 5 кастрычніка 1970 года ў г. Навапалацку Віцебскай вобласці. Скончыла факультэт архітэктуры Беларускай дзяржаўнай палітэхнічнай акадэміі. Працуе ў Мінску, інжынер ГДА "Продсервис-общепит". Друкавалася ў рэспубліканскай прэсе, у тым ліку ў часопісе «Немига литературная». У 2009 г. выдала дзве кнігі — "Устрица" і "Нелегал".

## Прэзентацыі

# Тэатральная журналістыка — ад Таццяны Арловай

У Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў адбылася прэзентацыя новай кнігі вядомага тэатральнага крытыка, прафесара Інстытута журналістыкі БДУ Таццяны Арловай "Театральная критика нового времени".



Таццяна Арлова — аўтар 14 кніг, сярод якіх: "Театральная журналистика", "Музыкальная журналистика", "Современная белорусская театральная культура", "Ростислав Янковский. Актёр", "История искусств". Трэба адзначыць, што менавіта яна ўвяла паняцце "тэатральная журналістыка", паядналшы крытыку і журналістыку.

Ва ўступе да кнігі "Театральная критика нового времени", выдадзенай у РВУ "Літаратура і Мастацтва", аўтарка падкрэслівае, што гаворка пойдзе менавіта пра сучасны тэатр. У кнізе распавядаецца пра беларускіх акцёраў, спектаклі, пра жанры тэатральнай крытыкі, пра тое, як паядналіся тэатр і журналістыка.

— Кніга выйшла якраз да майго юбілею, — адзначае Таццяна Дзмітрыеўна. — А для мяне гэта самы каштоўны падарунак. Калі пісала доктарскую дысертацыю па тэатральнай журналістыцы, маімі апанентамі былі выкладчыкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Дысертацыю ўважліва прачыталі, разабралі, а потым спыталіся: "Дык што ж такое тэатральная журналістыка?" Тады вырашыла, што пакажу гэта на практыцы. Мая новая кніга "Театральная критика нового времени" — гэта і ёсць тэатральная журналістыка. Адначасова гэта падручнік для тых, хто хоча пісаць пра тэатр. Для сваіх творчых партрэтаў абрала артыстаў, якія добра ведала, з якімі доўгі час сябрую, якія мне вельмі падабаюцца.

Мастацкі кіраўнік Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі Валерый Анісенка падчас прэзентацыі падкрэсліў: "Я заўсёды вельмі ўважліва чытаю Таццяну Арлову. Яна мне як хросная маці ў рэжысуры. Таццяна Дзмітрыеўна вылучаецца тым, што можа напісаць пра беларускі тэатр вельмі незвычайна. Я нават і не мог сабе ўявіць, што ў яе новай кнізе так шмат матэрыялу будзе пра наш тэатр. Вельмі ўдзячны Таццяне Арловай за яе складаную і вельмі карысную працу".

У прэзентацыі таксама ўзялі ўдзел народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Леанід Улашчанка, народны артыст Беларусі Мікалай Кірычэнка, выкладчыкі і студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: Таццяна Арлова разам з сябрамі і выкладчыкамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.

Фота аўтара

## Стасункі

# З любоўю да Ясеніна

Глыбокае пачуццё любові да выдатнага рускага лірыка Сяргея Ясеніна было яшчэ раз пацверджана на вечарыне, прысвечанай 115-годдзю з дня нараджэння паэта. Урачыстасць, якая адбылася 13 снежня ў мінскім Доме Дружбы, была падрыхтавана Грамадствам Сяброўства "Беларусь-Расія", Міжнародным грамадскім аб'яднаннем "Русь Адзіная" і Мінскім гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Музычна-песенную частку вечарыны вёў паэт, старшыня Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Русь Адзіная", кіраўнік ансамбля "Рускі раманс" Міхась Ткачоў. Песні на вершы Ясеніна выконваў Уладзімір Курак пад акампанемент канцэртмайстра Наталлі Чыжовай. Уразілі прысутных дэкламацыяй Міхасём Башлаковым урыўка з паэмы "Саракавуст", пераклад "Чорнага чалавека" на беларускую мову ў выкананні аўтара перакладу Міколы Шабовіча, выступы беларускага ясеніназнаўца, члена Міжнароднага ясенінскага грамадства "Радаўніца" Пятра Радзевіч і пісьменніка, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Аляксандра Суслава.

Сваё бачанне этычных і літаратуразнаўчых урокаў Ясеніна выказаў паэт Юрый Сапажкоў. Духам пяшчоты і пранізлівай любові да людзей падзьмула ад чытання вершаў Ясеніна пісьменніцай Натальляй Касцючэнкай (яна — адна з арганізатараў вечарыны), а таксама студэнтамі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Дзіянай Янушкай і Алесяй Аўласевіч.




Сяргей ЮР'ЕЎ

На здымку: выступае беларускі ясеніназнавец Пятро Радзевіч.

Фота Кастуся Дробава

## Вечарыны

# Запрашаем наведаць!

20 снежня ў Доме літаратара адбудзецца ўшанаванне паэтэсы Ніны Галіноўскай, добрай феі дзіцячых вершаў, з нагоды яе юбілею. Пачатак свята — у 14 гадзін.

21 снежня ў сталічнай бібліятэцы № 20 па адрасе: Жукоўскага, 9, у 18 гадзін літаратурная гасцёўня "Натхненне" прапануе паэтычны вечар "Калядныя зоркі".

11 студзеня а 18-й гадзіне вядомы празаік, літаратуразнаўца і даследчык Аляксандр Вашчанка запросіць сяброў і прыхільнікаў на свой творчы вечар у Дом літаратара.

Мікола КАНСТАНЦІНСКІ

## Літ-абсягі

# Гістарычная каштоўнасць—беларусы



У выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" пабачыла свет кніга "Беларускае замежжа. Белорусское зарубежье", у якой аўтарскі калектыў на чале са складальнікам і аўтарам большай часткі матэрыялаў, кандыдатам гістарычных навук, сябрам Саюза пісьменнікаў Беларусі Наталляй Голубевай робіць спробу ўзнавіць гісторыю беларускага замежжа, сабраць звесткі пра нашых суайчыннікаў, якія ў розныя часы пакінулі радзіму. Прэзентацыя гэтага каштоўнага выдання прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь.

Кніга стала вынікам сумеснай працы выдавецтва "БелЭн імя П. Броўкі", Дэпартамента па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь, буйнейшых архіваў Беларусі.

Падчас прэзентацыі выдання першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падкрэсліла: "2010 год — адметны ў кнігавыданні краіны. Перш за ўсё выданнямі, якія распавядаюць пра беларускую гісторыю, нашы каштоўнасці. Найвялікшая ж каштоўнасць краіны — беларусы, якімі ганарыцца ўвесь свет. Ведаю, што кніга будзе запатрабавана на міжнародных імпрэзах, кніжных выстаўках, нам не хапае кніг такога кшталту — каб праз іх паказваць багацце Беларусі".

Пра працэс падрыхтоўкі выдання і аўтарскі калектыў, які над ім працаваў, расказала галоўны рэдактар выдавецтва "БелЭн імя П. Броўкі" Ларыса Языковіч. Яна заўважыла: "Нягледзячы на тое, што кніга навукова-папулярная, яна мае грунтоўную навуковую аснову. Над ёй працаваў аўтарскі калектыў, у склад якога ўвайшлі навукоўцы, што даўно займаюцца вывучэннем тэмы беларускай дыяспары, прайшло выданне і навуковую апрабацыю. Супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, а таксама Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь напісалі глыбокія аналітычныя агляды дакументаў па беларускай дыяспары, што сёння захоўваюцца ў іх фондах. Кніга можа быць карыснай не толькі шырокай аўдыторыі, але і навукоўцам".

Складальнік кнігі і аўтар большай часткі матэрыялаў Наталля Голубева заўважыла: "Перад прэзентацыяй у мяне запыталіся: што было самае складанае ў стварэнні кнігі? І цяпер магу адказаць — было складана ў адным выданні змясціць гісторыю нашай нацыі. Сённяшняя прэзентацыя — пачатак унікальнага праекта. Мы звяртаемся да ўсіх, хто мае дакументы, матэрыялы, звязаныя з тэмай беларускага замежжа, каб гэтая кніга стала асновай працэсу збірання новых звестак. Кніга — толькі пачатак карпатлівай работы па вывучэнні гісторыі беларускага замежжа".

Разам з прэзентацыяй выдання ўвазе гледачоў быў прадстаўлены і відэапраект "Зямля геніяў" — пра беларусаў, якія ўнеслі ўклад у развіццё сусветнай цывілізацыі.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: складальнік кнігі, кандыдат гістарычных навук Наталля Голубева.

Фота Кастуся Дробава

## Арт-лінія

# З альбомаў Шумана

На сёлетнім календары музычных дат — два вялікія юбілеі, звязаныя з імёнамі геніяльных кампазітараў-рамантыкаў. Асабліва шырока, на ўзроўні ЮНЕСКА, адзначаецца 200-годдзе Фрыдэрыка Шапэна. Дарэчы, сапраўдны апафеоз у межах святкавання Года Шапэна ў Беларусі наладзілі днямі ў сталічнай філармоніі, пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску, рупліўцы творчага аб'яднання "Беларуская Капэла": нашы лепшыя маладыя піяністы выступілі поруч з Ансамблем салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам У. Байдава. Аднак і айчынныя выканаўцы, і музыканты-гастралёры ўшаноўваюць у сваіх праграмах яшчэ адзін сусветна значны юбілей: 200-годдзе Роберта Шумана.

Вечарына, што адбылася ва ўтульным доме Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, не суправаджалася гучнай рэкламай. Але прайшла яна з аншлагам і сталася па-святочнаму яркай падзеяй, прысвечанай 200-годдзю з дня нараджэння выбітнага нямецкага кампазітара Роберта Шумана. Да арганізацыі імпрэзы спрычыніліся таварыства "Беларусь — Германія". А канцэртную праграму падрыхтавалі навучэнцы і педагогі адной са старэйшых і вядучых дзіцячых музычных школ нашай краіны — сталічнай ДМШ № 1 імя Л. П. Александроўскай. Дарэчы, гэтае імя ў сценах Дома дружбы прамаўляецца са шчырым піетэтам, бо легендарную оперную спявачку ўшаноўваюць тут не толькі як выдатнага дзеяча беларускай культуры, але і як сапраўднага пасла міру: Ларыса Пампееўна шмат гадоў працавала на ніве народнай дыпламатыі — у праўленні Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

З лаканічнага і трапнага каментарыя вядучай вечарыны, музыказнаўцы Таццяны Афонінай, высноўвалася пачуццё захаплення Шуманам — унікальным чалавекам, надзеленым неверагодна багатым і разнабаковым талентам кампазітара, музычнага публіцыста і рэдактара, педагога, літаратара-філосафа. Шчырай усхваляванасцю, спантаннымі эмоцыямі, свежымі эстэтычнымі ўражаннямі напаўняла атмасферу залы музыка. Гучалі разнахарактарныя, адметныя сваім праграмным зместам, зусім адрозныя па ўзроўні вобразнай насычанасці, па тэхнічнай складанасці фартэпіянныя п'есы з вядомых цыклаў і зборнікаў Роберта Шумана ("Альбом для юнацтва", "Дзіцячыя сцэны", "Лясныя сцэны", "Лісткі з альбома", "Фантастычныя п'есы"), што любяць іграць і слухаць як дзеці, так і майстры фартэпіяннага выканальніцтва, дый самая звычайная публіка.

Апладысментамі ды кветкамі ганаравалі ўсіх. А найбольш уражліва выступілі лаўрэат гарадскога конкурсу шасцікласнік Цімафей Дыканец, лаўрэат міжнароднага конкурсу навучэнка 4 класа Ганна Абдулганеева, лаўрэат гарадскога конкурсу сямікласніца Марыя Львова-Каржанеўская, лаўрэат гарадскіх конкурсаў шасцікласніца Дар'я Стэц (на яе выкананне "Варыяцый на тэму ABEGG" зала адрэагавала воклічам "брава!").



Публіка вітала і выкладчыкаў-удзельнікаў канцэрта: Я. Гальцова, І. Палякова, В. Скадорву, дый увесь таленавіты педагагічны калектыў ДМШ № 1 на чале з дырэктарам С. Перапечам. Праз жывую музыку таленавітыя настаўнікі і вучні нагадалі вядомае выказванне Р. Шумана: "Асвятляць глыбіню чалавечага сэрца — вось прызначэнне мастака".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: партрэт Роберта Шумана.

## Повязі

# Другі раз у Мінску



Зарыфа Тэймураўна Салахава — чалавек паважаны ў Азербайджане. У коле яе сяброў — вядомыя палітыкі і дзеячы культуры. Яна можа папросту патэлефанаваць прэзідэнту сваёй краіны, і ён будзе доўга размаўляць з ёю па тэлефоне пра справы з яе пункта гледжання важныя і неадкладныя. Але, як аказалася, сярод добрых знаёмых гэтай жанчыны — не толькі азербайджанскі лідар. Зарыфа Тэймураўна сябруе з прэзідэнтамі і прэм'ер-міністрамі розных краін. І сярод іх — Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка.

Свае прыязныя адносіны да Беларусі і чалавека, які з'яўляецца яе кіраўніком, Зарыфа Салахава чарговы раз даказала, на свае ўласныя сродкі выпусціўшы мініяцюрную кнігу пра візіт Аляксандра Рыгоравіча ў Азербайджан 2—4 чэрвеня 2010 года. Кніга напісана на беларускай і азербайджанскай мовах і размешчана на 184 старонках, упрыгожаных 32 каляровымі фотаздымкамі. Фармат выдання — 38Х53 мм, тыраж — 150 экзэмпляраў. Дапамогу ў яе выданні аказаў старшыня Кангрэса азербайджанскіх абшчын Беларусі Націк Багіраў.

Усё зразумела. Але чаму кніга мусіла стаць менавіта мініяцюрнай? Ды таму, што Зарыфа Тэймураўна з'яўляецца стваральнікам і дырэктарам прыватнага музея мініяцюрнай кнігі. Яе заўжды ўзрушала ўменне далёкіх продкаў нашых змясціць у кнізе памерам з далонь, а то і яшчэ меншай, глабальныя пытанні чалавецтва. Калекцыю мініяцюрных кніг Салахава пачала збіраць у 1981 годзе. І першай у калекцыі гэтай стала кніжачка 1835 года выдання — "Байкі" І. Крылова. Цяпер у яе 4300 кніжак-мініяцюрак — з 65 краін, напісаных на розных мовах, у розных жанрах, на розныя тэмы. Але кожная кніга калекцыі — непаўторна прыгожая. Бо мініяцюрныя кнігі — гэта заўжды падарункавыя выданні.

Прыватны музей на аснове гэтай калекцыі афіцыйна быў зарэгістраваны ў Баку 23 красавіка 2002 года, у Міжнародны Дзень кнігі. Кожны год Зарыфа Тэймураўна адзначае тое свята абвяшчэннем бясплатнага наведвання. Да стварэння музея азербайджанскія ўлады падышлі паважліва — вылучылі будынак у цэнтры Баку, побач са славутым палацам Шырваншахаў, сярэдневечных правіцеляў Азербайджана, апекуноў вялікага Нізамі. Хутка пасля адкрыцця слава пра музей і яго заснавальніцу разнеслася далёка па свеце. Са сваімі мініяцюрнымі кнігамі Зарыфа Салахава пабывала шмат у якіх краінах. У тым ліку і ў Беларусі — у верасні 2009 года. 437 кніг прывезла яна тады ў Мінск. Выстаўка, як і сёлета, экспанавалася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

У гэтым годзе выстаўка мініяцюрных выданняў Зарыфы Тэймураўны не была такой вялікай — усяго 62 назвы. Але затое яна сталася тэматычнай і праходзіла пад назвай "Выдатныя дзеячы сусветнай палітыкі". Гэта надта цікавы збор, таму што са старонак выданняў, што сталі экспанатамі, дыхае гісторыя XX і XXI стагоддзяў, яркая і непаўторная. Імёны добра вядомыя і, побач з імі, ужо напаўзабытыя. Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін, Тэльман, Кенэдзі, Хонэкер, Брэжнеў, Гарбачоў, Аліеў, Пуцін… Які цудоўны матэрыял для гісторыка будучыні! Якія цікавыя экспанаты для калекцыянера! Цяпер сярод іх і кніга пра візіт Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Азербайджан. "Я ганаруся, што выдала гэта, — патлумачыла на адкрыцці выстаўкі Зарыфа Салахава. — Мы прыходзім у гэты свет і сыходзім, а кнігі застаюцца.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На здымку: вось якая яна маленькая — кніга, выдадзеная Зарыфай Салахавай.

Фота Віктара Кавалёва

## З-пад пяра

У Прэс-цэнтры Дома прэсы прайшоў "круглы стол" "Быў. Ёсць. Буду". Запатрабаванасць творчай спадчыны Уладзіміра Караткевіча". Да ўдзелу ў ім былі запрошаны навукоўцы, кнігавыдаўцы, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі. Былі прадстаўлены кнігі, выдадзеныя да юбілею славутага пісьменніка. Удзельнікі "круглага стала" даведаліся таксама пра тое, што ў нетрах выдавецтва "Мастацкая літаратура" рыхтуецца выданне поўнага акадэмічнага збору твораў Уладзіміра Караткевіча, у які ўвойдзе ўся вядомая на сённяшні дзень літаратурная і эпісталярная спадчына Уладзіміра Сямёнавіча. Асобным томам будуць выдадзены малюнкі пісьменніка, а ў якасці дадатку да збору будуць прыкладзены аўдыё- і відэадыскі з голасам Караткевіча і запісам яго тэлеінтэрв'ю.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Беларуская мова і літаратура ў славянскім этнакультурным кантэксце" прайшла ў Віцебскім універсітэце імя П. М. Машэрава. Распачаў навуковае мерапрыемства дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі прафесар А. Лукашанец. Ён заўважыў, што сацыяльны статус беларускай мовы за апошнія дзесяць гадоў моцна не змяніўся. Яна па-ранейшаму элітарная, прэстыж яе ведання — бясспрэчны, і на сённяшні дзень назіраецца ўрбанізацыя яе носьбітаў, гэта значыць знікае паняцце існавання беларускай мовы толькі на вёсцы. Вялікі рэзананс і спрэчкі выклікала выступленне дацэнта Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта У. Куліковіча пра ўкараненне новых правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

Ірына ЛОБАН

Прэзентацыя кнігі Раісы Баравіковай "Казачныя аповесці пра прыгоды міжпланетнага Пажарніка і іншых мамурыкаў" адбылася ў Брэсцкай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Дзеці, якія прыйшлі на сустрэчу з пісьменніцай, з захапленнем слухалі расповед пра тое, як стваралася кніга, і задавалі шмат пытанняў. Іх цікавіла ўсё: і дзяцінства аўтаркі, і як ставіліся бацькі да яе творчасці, і калі ўбачыла свет першая кніга, ці выдаюцца творы аўтаркі за межамі Беларусі і нават ці з'явяцца ў хуткім часе яе кнігі на дысках. Парадавала, што Раіса Андрэеўна вельмі патрыятычна ставіцца да роднай мовы і Радзімы. Яна не згадзілася нават за вялікі ганарар, прапанаваны расійскім выдавецтвам, перанесці дзейства касмічных аповесцей у Расію і змяніць беларускія імёны галоўных герояў на рускія. А ў трэцяй частцы кнігі пра мамурыкаў, між іншым, прыгадваецца помнік саве-начніцы на вуліцы Савецкай у Брэсце.

Наталля КАНДРАШУК

У зале зменных экспазіцый Хойніцкага раённага краязнаўчага музея экспанавалася выстаўка біямеханічных канструкцый XXI стагоддзя "Жывое жалеза". На ёй былі прадстаўлены прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, выкананыя з металічных дэталяў. Аўтар работ — гамяльчанін, выпускнік гістарычнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны Сяргей Парцянкоў, працуе ён дэкаратарам у абласным драматычным тэатры. Праца над стварэннем выстаўкі заняла 14 гадоў. Сярод прадстаўленых работ наведвальнікі адзначаюць канструкцыю "Багамол". Кампазіцыя "Чарнобыль" прадстаўлена ў выглядзе пачвары, якая вырвалася на волю. Вялікі інтарэс выклікалі работы пад назвамі "Трансфармацыя", "Метамарфозы", "Талісман".

Клаўдзія БОСАК

# …І думак чыстая крыніца

Вось ужо 110 гадоў, з самага свайго заснавання, Мінская абласная бібліятэка носіць імя Аляксандра Пушкіна. Так атрымалася ў гісторыі: адчыніўшы дзверы сваім наведвальнікам у цяпер далёкім ад нас 1900 годзе, яна завабіла чытачоў сваёй шчырасцю, адкрытасцю ды інтэлігентнасцю. Таксама — уласцівай нам, беларусам, пашанаю да імені, дадзенага ад нараджэння. Існуючы на працягу стагоддзя ў сусветнай гуманітарнай прасторы, яна больш вядома не па сваёй афіцыйнай назве, а па-народнаму — як Пушкінка.

І спяшаюцца сюды і чытачы, і пісьменнікі, як у свой родны дом. Творчых вечарын тут праводзіцца шмат, пра гэта ведаюць і, развітаўшыся аднойчы, не пакідаюць надзеі, што зноў прыйдуць сюды.

Прыслухаўшыся да голасу свайго дарадцы — часу, адным са сваіх важных і ўлюбёных кірункаў дзейнасці абласная бібліятэка імя Аляксандра Пушкіна абрала ўвекавечанне памяці вялікага паэта. Аднак чытач не без захаплення адкрые для сябе і іншыя шэдэўры высокага мастацкага слова. Сабраны за векавую гісторыю фонд бібліятэкі налічвае звыш 714 тысяч асобнікаў і захоўвае багацце філасофскіх і палітычных поглядаў розных перыядаў, сацыяльных і эканамічных думак, лепшых узораў класічнай і сучаснай літаратуры.

Яе жыццё не зліваецца з жыццямі іншых бібліятэк: штодня Пушкінку наведваюць каля тысячы карыстальнікаў.

Вельмі запатрабаваны чытачамі бібліятэкі перыядычныя выданні. У юбілейна-віншавальныя дні супрацоўнікі не хаваюць гонару: у аддзеле перыёдыкі сёння выпісваецца 677 найменняў айчынных і замежных часопісаў і 156 найменняў газет.

Ёсць трывалая сувязь з маладзёжным грамадскім аб'яднаннем "Розныя — Роўныя", і сёння паспяхова рэалізуецца культурна-адукацыйная праграма сацыяльнай рэабілітацыі людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Ладзяцца выставы дзіцячых работ творчай майстэрні "ФАРБА", дзе займаюцца дзеці з цяжкімі парушэннямі слыху спецыяльнай школы № 14 г. Мінска.

У аддзел замежнай літаратуры ў пачатку новага тысячагоддзя паступіла шмат кніг на англійскай мове з Аддзела інфармацыі, адукацыі і культуры Пасольства ЗША.

Што змянілася за апошняе дзесяцігоддзе? Безумоўна, пэўныя поспехі адбыліся ў інфарматызацыі бібліятэкі. Функцыянаванне бібліятэкі ў цэнтры інтэлектуальнага жыцця краіны не толькі прадвызначае яе высокі інфармацыйны патэнцыял (тут аўтаматызавалі ўсе бібліятэчна-бібліяграфічныя працэсы), але і паступовае развіццё ўстановы і як метадычнага цэнтра. У 2004 г. быў праведзены І з'езд сельскіх бібліятэкараў Міншчыны. Ініцыравалі міжабласныя семінары дырэктараў публічных бібліятэк. Цяпер яшчэ развіваюцца міжнародныя кантакты, шмат карыснага для бібліятэчнай справы прынёс удзел у міжнародных школах дырэктара. Цікавае, у нечым знакавае супадзенне: год святкавання юбілеяў адразу некалькіх абласных бібліятэк краіны заканчваецца пачэсным юбілеем Мінскай абласной. Ён не апошні ў чарадзе ўрачыстасцей для нашых кніжных скарбніц. І падзякуем спрыяльнаму лёсу, што ў іх арганізацыі ў адмысловым сацыяльным сумоўі поруч з бібліятэкарамі і мы, іх пастаянныя чытачы, жыхары Беларусі.

Ірына ТУЛУПАВА

У адрозненне ад іншых бібліятэк, якія з'яўляюцца найбуйнейшымі ў абласных цэнтрах, Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна ў сталіцы адна з многіх, і побач з такімі "гігантамі", як Нацыянальная бібліятэка Беларусі, рэспубліканскія галіновыя навуковыя бібліятэкі, цяжка знайсці сваю нішу і ўтрымліваць свайго чытача. Дырэктар установы Наталля ЧУЕВА распавядае пра асаблівасці працы ў сталічным рэгіёне.






# Пушкінка: на абшарах стагоддзяў

— У кожнай бібліятэцы ёсць свае перліны — кнігі, каштоўнасць якіх вызначаецца не толькі агульнапрынятымі характарыстыкамі, але і спецыфікай менавіта гэтага кнігазбору. Для нашай бібліятэкі, якая носіць імя геніяльнага паэта Аляксандра Пушкіна, гэта найперш дакументы, звязаныя з імем паэта, што беражліва збірае і даследуе Пушкінскі інфармацыйны цэнтр бібліятэкі. Ствараецца база дадзеных "Пушкініяна", праводзіцца цікавая культурна-асветніцкая работа па прапагандзе спадчыны паэта, выдадзены зборнікі "Пушкін і Беларусь", "Нашчадкі Пушкіна на Беларусі", "За плячамі стагоддзе: з гісторыі Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна", зводны каталог "Дарэвалюцыйныя выданні А. С. Пушкіна і літаратура пра яго з фондаў бібліятэк, музеяў і архіваў Беларусі" і інш.

Штогод у бібліятэцы праводзяцца Пушкінскія чытанні, якія заўсёды прыцягваюць аматараў паэтычнага слова і маюць шырокі рэзананс.

Шмат увагі бібліятэка надае выхаванню літаратурнага густу сваіх маладых чытачоў. Вось ужо другое дзесяцігоддзе мы праводзім злёт маладых паэтаў Міншчыны "Слова Купалы да творчасці кліча", кансультантамі на якім выступаюць знакамітыя беларускія паэты. Па выніках злёту абласная бібліятэка выдае зборнік вершаў, свайго рода пуцёўку ў літаратурнае жыццё для пачаткоўцаў. Ужо стала друкуюцца на старонках беларускіх літаратурных выданняў былыя ўдзельнікі злёту Таіса Трафімава, Рагнед Малахоўскі, Янка Лайкоў і інш.

Пушкінка стала тым месцам, дзе творчыя людзі і аматары літаратуры могуць сабрацца, каб паслухаць паэтычнае слова, паўдзельнічаць у прэзентацыях новых кніжак, сустрэцца з вядомымі літаратарамі. Даўнімі добрымі сябрамі нашай бібліятэкі сталі Р. Баравікова, В. Зуёнак, В. Шніп, А. Бутэвіч, Л. Дранько-Майсюк, Л. Рублеўская і інш.

— У Мінскую абласную бібліятэку наведвальнікі прыходзяць і каб далучыцца да выяўленчага мастацтва: розгалас пра выстаўкі, што ладкуюцца ў вас, ідзе па ўсёй краіне.

— Так, наша бібліятэка — адна з нямногіх у горадзе, у структуры якой ёсць аддзел літаратуры па мастацтве з багатым зборам дакументаў па ўсіх відах і жанрах. Агульная іх колькасць каля 30 тыс. экз. Не дзіва, што пра такі багаты фонд ведаюць людзі, якія цікавяцца і музыкай, і выяўленчым мастацтвам, і народнай творчасцю. Аддзел сябруе з многімі беларускімі мастакамі, якія з'яўляюцца не толькі чытачамі, але і выстаўляюць у нашай галерэі свае творы, дапамагаюць наладжваць тэматычныя выставы. Прыкладам, беларускі мастак С. Крыштаповіч з удзелам грамадскага аб'яднання мастакоў "Майстар" правёў у нас выстаўку "Марцовыя каты", добра вядомую сярод насельніцтва; альбо можна згадаць выстаўку "Мінскае гета. Графіка, скульптура, жывапіс" мастака Лазара Рана, арганізаваную сумесна з рэспубліканскім фондам "Халакост"; ці экспазіцыю твораў заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Нінэль Шчаснай; "Рэха Чарнобыля" фотамастака Ю.Плюшчава.

Прынамсі, бібліятэка надае шмат увагі краязнаўчай працы. Для тых, хто цікавіцца гісторыяй і сённяшнім жыццём свайго роднага краю, заўсёды даступны фонд аддзела краязнаўчай літаратуры, дзе захоўваецца ўнікальны збор дакументаў. Створана і папаўняецца электронная фактаграфічная база дадзеных "Памяць Міншчыны".

— Калісьці Пушкінку называлі "Акном у Парыж". З-за таго, што ў бібліятэцы створана і дзейнічае зала інфармацыі пра Францыю. Свае міжнародныя кантакты пашыраеце?

— Гэта натуральна ў эпоху развітых камунікацый і ўзаемапранікнення культур. Наш аддзел замежнай літаратуры прадастаўляе да паслуг чытачоў літаратуру на 40 мовах свету, доступ у Інтэрнэт. Пры аддзеле працуе створаная сумесна з Пасольствам Францыі згаданая франка-беларуская зала інфармацыі.

Прычым, мы праводзім розныя мерапрыемствы і культуралагічныя акцыі ды праекты, якія дапамагаюць чытачу хутчэй зарыентавацца ў свеце суіснавання розных моў і культур. Вялікую цікавасць у наведвальнікаў выклікалі творчыя сустрэчы з вядомым французскім пісьменнікам, рэжысёрам Аленам Флэшэрам, які з задавальненнем сустракаецца з чытачамі Пушкінкі: ён лічыць беларускую аўдыторыю неверагодна інтэлектуальнай і зычлівай. Запомніліся іншыя сустрэчы. Сумесна з Інстытутам Гётэ ў Мінску мы правялі прэзентацыю кнігі "Найлепшыя прывітанні з Мінска" нямецкага пісьменніка, гісторыка Паўля Коля з удзелам аўтара. Паспяхова працуе клуб аматараў кіно — Movie Club, які не толькі знаёміць з шэдэўрамі сусветнага кінамастацтва, але і спрыяе вывучэнню англійскай мовы. У аддзел замежнай літаратуры на такія сустрэчы прыходзяць не толькі чытачы, а і настаўнікі, выкладчыкі. У супрацоўніцтве з Мінскім гарадскім інстытутам развіцця адукацыі рэалізуецца распрацаваная праграма павышэння прафесійнага майстэрства выкладчыкаў замежных моў.




— Кажуць, бібліятэкам нават іх геаграфічнае становішча спрыяе. Хто ж часцей наведвае Пушкінку: мінчане альбо жыхары вобласці?

— Магу пагадзіцца з тым, што месцазнаходжанне бібліятэкі прадвызначае і яе чытача. Канечне, у асноўным гэта жыхары сталіцы, але безумоўна і тое, што фондам бібліятэкі актыўна карыстаюцца і жыхары вобласці — праз міжбібліятэчны абанемент замаўляюць неабходную інфармацыю.

— А калі няма электроннай версіі неабходнай кнігі?

— Шукаем выйсце. Мы пастаянна ўдасканальваем формы абслугоўвання. Між іншым, у снежні мяркуем выставіць у Інтэрнэт абноўлены вэб-сайт бібліятэкі.

— На сённяшні дзень бібліятэка абслугоўвае каля 40 тысяч чытачоў. Многа гэта ці мала?

— Быў час, калі колькасць чытачоў павялічвалася амаль да 46 тысяч. Гэтаму ёсць тлумачэнне: Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў час пераезду ў новы будынак тэхнічна не магла абслугоўваць усіх жадаючых, і яны часова прыйшлі да нас.

Магчымасці Інтэрнэта дазваляюць сёння атрымаць любую інфармацыю для напісання рэфератаў, курсавых, дыпломных прац, не звяртаючыся да паслуг бібліятэкі. Безумоўна, усё гэта і сучасная аснашчанасць бібліятэк ВНУ адбіваецца на колькасці нашых чытачоў. Тэхнічны прагрэс радуе, але мяне, чалавека, які ўсё сваё жыццё працуе з кнігай, засмучае, што моладзь усё больш жыве ў віртуальнай прасторы і ўсё менш звяртаецца да друкаванай кнігі і чытання.

— Апошнім часам у спецыялізаваных выданнях загаварылі пра трансфармацыю бібліятэк у часе. Яны, і праўда, цяпер узялі на сябе функцыі, якія раней не выконвалі. А што нас чакае наперадзе?

— Улічваючы паскораныя тэмпы развіцця інфарматыкі, а таксама розныя меркаванні, факты з гісторыі кнігі, бібліятэчнай справы і бібліяграфіі, сёння прадказаць, якой будзе бібліятэка заўтра, на маю думку, вельмі складана.

А ў бліжэйшы час будуць суіснаваць і карыстацца попытам як традыцыйныя, так і электронныя бібліятэкі.

— Якія традыцыі захоўваюцца з часоў адкрыцця скарбніцы?

— Першая публічная бібліятэка ў горадзе, як гэта ні дзіўна, у дарэвалюцыйныя часы была даступна не толькі элітнай публіцы, але і звычайным жыхарам горада. І вось гэтая даступнасць, адкрытасць для розных катэгорый чытачоў засталася і сёння. З моманту свайго заснавання бібліятэка ўзяла на сябе асветніцкую функцыю, якую мы годна працягваем.

Такую традыцыю мы захоўваем. Дзверы бібліятэкі адчынены для дзеячаў культуры нашай краіны. Не перабольшу, калі прывяду выказванне паэта Алеся Пісьмянкова на яго творчай вечарыне ў нашай бібліятэцы: "Пушкінка — гэта для нас, пісьменнікаў, другі Дом літаратараў".

— Што пажадаеце ў 110-гадовы юбілей свайму калектыву?

— Шчыра жадаю працавітаму калектыву бібліятэкі моцнага здароўя, дабрабыту, асабістага шчасця і, безумоўна, задавальнення ад сваёй працы, запатрабаванасці ў грамадстве і шмат чытачоў.

Гутарыла Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: дырэктар Мінскай абласной бібліятэкі Наталля Чуева; выданне твораў удзельнікаў злёту маладых паэтаў Міншчыны; эмблема конкурсу для дзяцей і падлеткаў.

Пра літаратурныя традыцыі Міншчыны ды пра чытацкія прыярытэты мы гутарым з начальнікам упраўлення культуры Мінскага абласнога выканаўчага камітэта Анатолем АКУШЭВІЧАМ.



# Знайсці водгук у кожным сэрцы

— Анатоль Леанідавіч, сталічная вобласць — рэгіён асаблівы: тут шмат навукова-даследчых інстытутаў, ВНУ, устаноў культуры і мастацтва, архіваў, музеяў. Шмат і людзей, якія з'яўляюцца актыўнымі карыстальнікамі бібліятэк. Да таго ж, усім вядомыя літаратурныя традыцыі вобласці…

— Сталічная вобласць — сапраўды сэрца Беларусі, дзе засяроджаны наймагутнейшы навуковы і прамысловы патэнцыял рэспублікі, ёсць свае непаўторныя культурна-гістарычныя, у тым ліку і літаратурныя, традыцыі. З імёнамі сусветна прызнаных майстроў мастацкага слова Купалы, Коласа, Багдановіча, Танка, Крапівы, якія нарадзіліся і атрымалі творчае натхненне на мінскай зямлі, звязана правядзенне Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне, абласнога злёту маладых паэтаў "Нас слова Купалы да творчасці кліча" на Лагойшчыне, абласнога свята гумару "Я пякучка-Крапіва" на Уздзеншчыне, літаратурных Віткаўскіх, Коласаўскіх і іншых чытанняў на Случчыне, Пухавіччыне і Стаўбцоўшчыне.

— І неаспрэчна тое, што значным культурным рэсурсам развіцця рэгіёна з'яўляюцца бібліятэкі. Наколькі ж вялікая сетка бібліятэк вобласці? У чым яе асаблівасць?

— Сёння бібліятэкі — не толькі кнігасховішчы, дзе акумулiравана інтэлектуальная спадчына, гэта аўтарытэтныя цэнтры асветы, інфармацыі і вольнага часу. Бібліятэкі Міншчыны маюць значны інфармацыйны патэнцыял — амаль 10 млн. экзэмпляраў. Гэта ўнікальныя ўстановы, якія не маюць ні ўзроставых, ні сацыяльных абмежаванняў і дапамагаюць павышаць інтэлект, пашыраць кругагляд, духоўна ўзбагачацца.

Сетка бібліятэк Мінскай вобласці — адна з буйнейшых у краіне і налічвае каля 1700 бібліятэк розных сістэм і ведамстваў. Асаблівасцю ж публічных бібліятэк, а іх сёння 781, з'яўляецца максімальная набліжанасць да месца жыццядзейнасці і зарыентаванасць на патрэбы жыхароў. Сёння асноўная частка (амаль 85 працэнтаў) публічных бібліятэк вобласці знаходзіцца ў сельскай мясцовасці. Бібліятэчная правінцыя заўсёды была моцная сваім веданнем жыцця, духоўных патрабаванняў, думак кожнага чалавека, кожнай асобы. Нашы сельскія бібліятэкі — гэта і арганізатары культурнага жыцця вёскі, у апошнія гады яны ўсё больш бяруць на сябе функцыі іншых сацыякультурных устаноў. Бібліятэка на сяле часам становіцца адзіным культурным інстытутам, цэнтрам прыцягнення адукацыйных, сацыяльных, вытворчых структур. У гэтай сувязі вельмі ёмка гучаць словы англійскага вучонага Джона Лэббака: "…кожны з нас можа знайсці ў бібліятэцы спакой духу, суцяшэнне смутку, духоўнае абнаўленне і шчасце…"

— Да 100-годдзя Мінскай абласной бібліятэкі акрамя іншага адзначылася, што за апошнія пяць год фонды бібліятэк рэгіёна зменшыліся на 15 працэнтаў. Зразумела, што прадпрымаліся і некаторыя шляхі па выхадзе са становішча. Наколькі эфектыўнымі яны былі?

— Фонды публічных бібліятэк вобласці павялічыліся на 76 тысяч экзэмпляраў, у тым ліку абласной — на 29 тысяч. Безумоўна, значны ўплыў на паляпшэнне становішча аказала павелічэнне бюджэтнага фінансавання камплектавання фондаў, а менавіта — выкананне даручэння Кіраўніка дзяржавы пра накіраванне з бюджэту на дадзеныя мэты не меней як 15 працэнтаў сродкаў.

Ажыццяўляючы дзяржаўную палітыку ў галіне бібліятэчнай справы, Мінскі аблвыканкам заўсёды надаваў увагу клопатам бібліятэкі. Больш за дзесяць год у нас дзейнічае праграма фінансавай падтрымкі камплектавання бібліятэк вобласці за сродкі абласнога бюджэту, дзякуючы якой фонды папоўніліся на 270 тысяч новых выданняў. Пры гэтым у 2010 годзе на цэнтралізаванае камплектаванне бібліятэк вобласці мы накіравалі ў 2 разы больш сродкаў, чым летась.

— Што паказвае вопыт: кнігі на Міншчыне больш чытаюць на традыцыйных носьбітах альбо актыўна карыстаюцца электроннымі версіямі?

— Нягледзячы на пэўныя вартасці электроннай кнігі — гэта выдатны аператыўны і шматаспектны сродак распаўсюджвання інфармацыі, які больш выкарыстоўваецца ў дзелавых і вучэбных чытацкіх інтарэсах, — тым не менш яна саступае традыцыйнай. Па-ранейшаму найбольш любімай у чытачоў Міншчыны застаецца кніга на паперы. Яе можна чытаць і ў бібліятэцы, і дома, і ў дарозе, і на прыродзе без дадатковых тэхнічных сродкаў.

— Ведаю, што пры аналізе, у прыватнасці, працы сельскіх клубаў Міншчыны было адзначана: выкананне плана платных паслуг павінна ісці з улікам функцыянальнага прызначэння ўстановы. Хацелася б, каб таксама ўлічваліся і задачы бібліятэк — найперш па прапагандзе чытання…

— Згодны, ніякая камерцыйная дзейнасць, ніякі план платных паслуг бібліятэкі не павінны шкодзіць яе важнейшаму сацыяльнаму прызначэнню — забеспячэнню свабоднага доступу да інфармацыі, ведаў, культуры, духоўнаму фарміраванню асобы.

— Анатоль Леанідавіч, ці памятаеце вы сваю першую бібліятэку? І якую літаратуру любіце чытаць цяпер?

— Знаёмства з маёй першай бібліятэкай адбылося ў сярэдняй школе № 2 г.п. Кіраўск Магілёўскай вобласці, куды я пайшоў у першы клас.

Цяпер для чытання ў асноўным выкарыстоўваю час, праведзены ў дарозе падчас вандровак па аб'ектах культуры Міншчыны. Тэрыторыя вобласці вялікая, і гэта дае магчымасць знаёмства з прафесійнай літаратурай нашай галіны. Люблю паэзію, часта перачытваю мудры беларускі твор "Сымон-музыка" Я. Коласа, любімых аўтараў Э. М. Рэмарка, А. Маруа, П. Каэльа. Раз на тыдзень бываю ў Мінскай абласной бібліятэцы і па неабходнасці наведваю ўсе аддзелы.

— Які сумесны праект з Мінскай абласной бібліятэкай, на вашу думку, можна было б ажыццявіць у будучым?

— Мы будзем працягваць нашы сумесныя праекты па падтрымцы маладых літаратурных талентаў, па цэнтралізаваным камплектаванні бібліятэк вобласці сацыяльна значнай, галіновай, дзіцячай літаратурай. Плануем правесці II сход сельскіх бібліятэкараў і цыкл мерапрыемстваў гуманітарна-асветніцкага кірунку.

…Калісьці стваральнік рэалістычнага тэатра К. С. Станіслаўскі, адказваючы на пытанне, з чаго пачынаецца палёт птушкі, зазначыў: з таго, што яна становіцца гордай. Дык вось, у юбілейныя дні я жадаю калегам і супрацоўнікам Мінскай абласной бібліятэкі імя Аляксандра Пушкіна ганарыцца сваёй прафесіяй, сваімі справамі і сваёй Радзімай. Захаваць цікавасць да справы, якой аддана служаць, і павагу да людзей. Няхай самаадданая праца па захаванні чалавечай мудрасці заўсёды знаходзіць водгук у сэрцах чытачоў!

Ярына РЫТАМІНСКАЯ

На здымках: начальнік упраўлення культуры Мінаблвыканкама Анатоль Акушэвіч.

Фота Кастуся Дробава

# З залікоўкай — у чытальную залу

Адкрытая па ініцыятыве гарадской інтэлігенцыі, Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна цяпер сама дапамагае ў падрыхтоўцы кваліфікаваных бібліятэчных работнікаў.

Бібліятэка разам з факультэтам інфармацыйна-дакументных камунікацый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў ініцыіравалі такую форму ўзаемадзеяння, як вучэбна-навукова-вытворчы комплекс. Такім чынам мы знялі пэўныя бар'еры, якія, як вядома, існуюць паміж навукай, вытворчасцю і адукацыяй. Пры стварэнні такога навукова-вытворчага комплексу мы ўлічвалі спецыфіку дакументальных рэсурсаў бібліятэкі, якая дае прыярытэт для супрацоўніцтва з ВНУ па гуманітарных спецыяльнасцях. Такім чынам, удасканаленне прафесійнай падрыхтоўкі студэнтаў адбываецца па спецыялізацыях "бібліятэчна-бібліяграфічнае краязнаўства" і "навукова-метадычная дзейнасць бібліятэк". Як вядома, цяпер краязнаўчая і навукова-метадычная работа шырока вядзецца амаль ва ўсіх публічных і спецыяльных бібліятэках краіны.



Новыя тэхналогіі — у дзеянні.

У Пушкінскай бібліятэцы, у прыватнасці, праводзяцца практычныя работы па дысцыплінах "Краязнаўчыя інфармацыйныя рэсурсы", "Методыка бібліяграфавання краязнаўчых дакументаў", "Навукова-метадычная дзейнасць бібліятэк", "Замежныя базы даных" і іншых, выконваюцца кантрольныя, курсавыя і дыпломныя работы студэнтамі дзённай і завочнай формаў навучання, з удзелам бібліятэкараў-практыкаў адбываюцца семінары. Такая форма навучання актывізуе студэнтаў, вучыць іх прафесійна ставіцца да працы, спрыяе адаптацыі ў бібліятэчным прафесійным калектыве. Студэнты распрацоўваюць індывідуальныя праекты, атрымліваюць ацэнку сваёй працы як з боку выкладчыкаў, так і, што вельмі важна, ад вопытных бібліятэчных спецыялістаў. З вялікай увагай да дзейнасці студэнтаў ставяцца загадчыкі аддзелаў беларускай і краязнаўчай літаратуры Д. В. Скубілаў, бібліятэказнаўства І. П. Даўматовіч, бібліятэкар першай катэгорыі В. П. Алешка, дырэктар Н. С. Чуева, намеснік дырэктара В. А. Малюга.

Хаця першапачаткова перад такім вучэбна-навуковым комплексам ставіліся задачы, звязаныя з адукацыйнай дзейнасцю, але хутка кола іх пашырылася. Цяпер ужо распрацоўваецца і навуковая праблематыка, актуальная для сучаснага функцыянавання бібліятэкі. На круглым стале ў гонар 110-годдзя Мінскай абласной бібліятэкі прымуць удзел выкладчыкі кафедры тэорыі і гісторыі інфармацыйна-дакументных камунікацый дацэнты А. В. Прадзеіна і В. І. Саітава. У Школе дырэктараў ЦБС, якую арганізуе абласная бібліятэка, выступіць прафесар В. Е. Лявончыкаў. Асобныя тэмы па прапанове бібліятэкі распрацоўваюцца студэнтамі ў якасці дыпломных праектаў і магістарскіх дысертацый. Дзейнасць комплексу ахоплівае напрамкі, арганічныя і для ВНУ, і для бібліятэк. Тут — выдатная пляцоўка для прафарыентацыйнай работы.

Вучэбна-навукова-вытворчы комплекс "Мінская абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна — Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў" яшчэ праходзіць перыяд станаўлення, і перад арганізатарамі толькі адкрываюцца яго патэнцыяльныя магчымасці. Аднак можна сцвярджаць, што задума інтэгравання бібліятэчнай практыкі і адукацыі садзейнічае фарміраванню новай якасці прафесіянальных спецыялістаў бібліятэчнай справы.

Валянціна САІТАВА,
дацэнт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, кандыдат педагагічных навук

# Два факты з гісторыі

З самага пачатку ў Мінскай публічнай бібліятэцы была закладзена традыцыя творчых стасункаў з культурнай элітай грамадства. Ганаровым сябрам гарадской публічнай бібліятэкі імя А. С. Пушкіна быў абраны Л. М. Талстой. Пастаянным актыўным чытачом бібліятэкі з'яўляўся слынны беларускі паэт М. Багдановіч.

Абраць ганаровым членам бібліятэкі Л. М. Талстога было вырашана на агульным сходзе ў гонар 80-гадовага юбілею пісьменніка. Яму была адпраўлена вітальная тэлеграма. Талстой не любіў урачыстых цырымоній, аднак званне ганаровага члена Мінскай публічнай бібліятэкі прыняў з удзячнасцю. У яго адказе значылася: "Удзячны членам Мінскай гарадской грамадскай бібліятэкі за абранне мяне ганаровым членам".

Пра тое, што ў 1916-1917 гг. Максім Багдановіч быў пастаянным чытачом бібліятэкі, згадвае ў сваіх успамінах Змітрок Бядуля. Пра жыццё паэта ў Мінску ён пісаў: "Нягледзячы на слабае здароўе, М. Багдановіч прыняў службу ў земстве, дзе надта шмат працаваў. У вольны ад службы час ён або сядзеў у Пушкінскай бібліятэцы, або дома і займаўся літаратурнай працай".

Рыта СТАХ

(Працяг тэмы на стар. 13).



Так выглядала Мінская публічная бібліятэка (фота з архіва).

№ 50 17 снежня 2010 г. ЛіМ

Нядаўна ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі адбыўся "круглы стол" сучасных беларускіх фантастаў. Удзельнікамі былі пісьменнікі Аляксандр Сілецкі, Анатоль Драздоў, Андрэй Мураўёў, карэспандэнт газеты "ЛіМ" Алеся Лапіцкая. Вёў размову старшыня секцыі прыгод і фантастыкі СПБ Уладзімір Кулічэнка, хаця пры абсалютна дэмакратычнай, нязмушанай атмасферы кожны мог узняць істотнае для яго пытанне, выказацца па актуальнай праблеме. Тэмай "круглага стала" была абрана "Фантастыка і гісторыя" — невыпадкова, бо прысутныя пісьменнікі (за выключэннем, бадай, Аляксандра Сілецкага) пішуць гістарычную фантастыку. Іх кнігі тыражамі ў 3 — 5 тыс. асобнікаў выходзяць (і раскупляюцца!) у Расіі.

Прагучала шмат цікавых, часам спрэчных меркаванняў, да таго ж у кожнага пісьменніка свой лад мыслення і, адпаведна, адмысловае маўленне...

# Сучасныя фантасты, «трапленцы» і Караткевіч

Андрэй Мураўёў: Кожны з нас у дзяцінстве сядзеў на ўроках гісторыі, дзе расказвалі, што вось-вось не дайшлі, не паспелі, і тут ворагі нашых завалілі… І кожны сціскаў свае кулачкі і думаў: мяне б туды — я б ім даў! Калі мужчына робіцца больш дарослым, усе гэтыя дзіцячыя фантазіі пачынаюць шукаць выйсця, вылазяць пенкамі наверх…

Уладзімір Кулічэнка: Існуе пункт гледжання, што фантаст у нестандартнай форме спрабуе адлюстраваць сучасную праблематыку.

А. М.: Гэта хутчэй адыход ад праблем сучаснага жыцця, бо калі да іх звяртаюцца, то пішуць пра няпросты лёс, ВІЧ-пазітыўных, незаконных мігрантаў і іншае...

Аляксандр Сілецкі: Андрэй, вы бераце ў пэўным сэнсе гламурны зрэз. Калі фантастыка займаецца сур'ёзнымі праблемамі сучаснасці, то піша пра дабро і зло, пра сацыяльны лад, а пены, якая цяпер модная, якраз няма, бо калі яна ёсць, гэта і ёсць адыход.

Анатоль Драздоў: Я згодны: фантастыка — гэта адыход ад сучаснасці. Я пачынаў як рэалістычны пісьменнік: мая першая кніга прысвечана ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС. Я сам быў там, і кніга адлюстравала тое, што я бачыў… Але я лічу, што сучаснае жыццё — не цікавае. Што датычыць вялікіх пытанняў — дабра і зла… Справа ў тым, што чалавецтва за гэтыя некалькі тысячагоддзяў амаль не змянілася. Змяніўся сацыяльны лад, характар узаемаадносін, не больш.

У. К.: Я часам думаю, што прымусіла мяне пісаць аповесць "Клуб горада Эн", дзе размова ідзе пра стасункі ў прыдуманым мястэчку Заходняй Беларусі напярэдадні Першай сусветнай вайны… Калі я пачынаў яе пісаць, то інтуітыўна адчуваў: патрэбна больш рамантыкі, больш экзотыкі. Пытанні быцця стаялі тады неяк больш рэльефна, чым сёння, калі ўсё так хутка змяняецца. Больш праўдзівым, больш натуральным падалося мне тое жыццё.

А. Д.: Шмат мужчын любяць гісторыю. Адна дама сказала, што мужчыны, калі чытаюць гістарычныя кнігі, у пэўнай ступені кампенсуюць тое, што не атрымалі ў рэальным жыцці.

У. К.: А што такое альтэрнатыўная гісторыя, пра якую так часта гавораць?

А. Д.: Гэта буйны напрамак у літаратуры. Альтэрнатыўная гісторыя — гэта калі аўтар змяняе ход рэальных гістарычных падзей. Адзін варыянт — калі героямі з'яўляюцца людзі, якія сапраўды маглі жыць толькі ў той час. Другі варыянт — калі ў мінулае трапляе чалавек з нашага часу, так званы "трапленец".

У. К.: У вас што-небудзь такое ёсць?

А. Д.: У мяне ва ўсіх раманах "трапленцы". Гэта нашы сучаснікі, якія ў выніку збегу абставін апынуліся ў мінулым.

А. М.: Да таго ж, калі разглядаць гісторыю як лінейную сістэму, то ў ёй абавязкова ёсць кропка біфуркацыі, з якой яна можа пайсці налева, можа пайсці направа.

А. С.: У 1988 г. у "Бібліятэцы савецкай фантастыкі" выйшла кніга Анікіна — пра тое, як перамаглі дзекабрысты. Рэвалюцыя 17-га года ўсё роўна адбылася! У гісторыі (верагодна, паводле закону захавання энергіі) у пэўны момант усё скатваецца да непазбежных падзей.

А. Д.: Мае кнігі не належаць да альтэрнатыўнай гісторыі — я пішу ў рэчышчы крыптагісторыі. Нічога не змяняецца. Усе падзеі супадаюць.

А. М.: Але ты адлюстроўваеш унутраную матывацыю.

У. К.: А хто з беларускіх аўтараў працуе менавіта ў жанры альтэрнатыўнай гісторыі?

А. Д.: Магілёўцаў… Але ў нас гэта менш распаўсюджана, чым у Расіі. Там прыйшлі камп'ютарныя хлопчыкі, якія выраслі на гульнях, дзе імітавалася гісторыя. Частка з іх пайшла ў літаратуру — і жанр робіцца папулярным…

Алеся Лапіцкая: Наколькі хутка адбываюцца змены ўнутры самога жанру?

А. Д.: У XIX стагоддзі не было кіно, Інтэрнэта, тэлефона, і людзі пісалі адно аднаму лісты даўжынёй у палову рамана. Той час дыктаваў іншую літаратуру — літаратуру абставін, літаратуру апісальную…

А. М.: Цяпер паскорыўся тэмп жыцця, цяпер у нас — "кліпавая свядомасць". Калі б у савецкі час я напісаў раман у 15 аркушаў, мне б сказалі, што гэта мала, што гэта — аповесць. Нясі нам 20 — 30 аркушаў!

А. Л.: А якія ў вас крытэрыі вартасці для мастацкага твора?

А. М.: Пішы пра што хочаш, галоўнае, каб чытач узяў — і не змог адарвацца. І ёсць цэлая плойма літаратурных прыёмаў, каб гэтага дасягнуць.

А. С.: Трэба згадаць выслоўе Вальтэра: "Няма высокіх і нізкіх жанраў — ёсць нудныя, сярод нудных ёсць кепска напісаныя і добра напісаныя". Сусветная класіка — перш за ўсё масавая літаратура, бо пакаленні чытаюць яе без прымусу, яе бесперапынна перавыдаюць.

А. Д.: Уся класіка — камерцыйна паспяховая літаратура.

У. К.: А я, калі разгортваю кнігу, бачу перш за ўсё мову — і тэму, напэўна…

А. Д.: Ёсць адно цікавае пытанне: наколькі аўтару-фантасту трэба ведаць рэаліі таго перыяду, які ён апісвае? Наогул, гэта лічыцца добрым тонам.

А. М.: Добры аўтар — гэта апавядальнік, які пераносіць цябе ў вельмі праўдападобную гісторыю. Калі чытач чытае і верыць — значыць, атрымалася. Калі атрымліваецца рабіць гэта з пералічэннем нейкіх тактыка-тэхнічных падрабязнасцей альбо побытавых дэталей таго часу — яшчэ лепш…



А. Д.: У альтэрнатыўнай гісторыі ёсць сёння г. зв. "заклёпачны" кірунак — калі ўсе заклёпкі павінны быць на месцы. Ты апісваеш браняпоезд і па фотаздымку знаходзіш, колькі на ім заклёпак…

А. М.: Гарматы, хуткастрэльнасць — усё ты павінен ведаць. І барані бог у цябе зарад будзе не таго калібру — у пэўных колах ты ўжо не аўтар. Пры гэтым у грамадстве наогул вельмі кепска ведаюць гісторыю. Асабліва маладое пакаленне. А калі і ведаюць, то збольшага па кнігах, якія і чытаць не варта. Ёсць дзясяткі аўтараў, якія робяць гісторыю паводле прынцыпу: у мяне ёсць канцэпцыя, я ўзяў факты, якія ёй адпавядаюць…

А. Д.: …І магу іх пяць разоў паўтарыць.

А. М.: А тыя, якія ёй не адпавядаюць, я проста адкідваю. І ўсё. Гэта макулатура…

У. К.: Мне здаецца, у творчасці беларускіх пісьменнікаў-фантастаў дамінуе расійская гісторыя.

А. М.: Каб надрукавацца ў Расіі, ты павінен закрануць тэму, якая стасуецца да Расіі. Гісторыю Беларусі пэўных перыядаў яны таксама ўспрымаюць як частку сваёй гісторыі.

А. Д.: Гэта так і не так адначасова. Мой раман "Інтэндант" заснаваны на беларускіх рэаліях. Яго тэма — партызанскі рух 1941 — 1942 гг. Падзеі адбываюцца ў Горадзе, прататып якога — беларускае мястэчка, дзе было штосьці падобнае. У такіх раманах, як "Залатыя апосталы", "Інтэндант трэцяга рангу", "Інтэндантурат" дзеянне разгортваецца пераважна на тэрыторыі Беларусі. А чытаюць мяне галоўным чынам рускія. Калісьці на маім сайце пачалася спрэчка. Адзін спытаўся: "Чаму ты Драздова хваліш, а мяне — не?". А другі адказаў: "Таму што ты не любіш рускіх і Расію, а Драздоў любіць!"

А. М.: Я ў кожным творы згадваю родныя вёскі. Абавязкова. Пра іх распавядаюць мае героі… Усе чытачы выдатна ведаюць, што я беларус. Мы нарадзіліся ў правінцыяльных мястэчках, у сёлах. (Крыху іранічна.) Гэта цяпер на нас налёт сталічнасці, а так мы ад зямлі, беларуская мова — мова нашага дзяцінства.

У. К.: Але пішаце ўсё-такі па-руску.

А. М.: Бо ў мяне жонка руская… (Смяецца.) Да таго ж выдавацца трэба ў Расіі. Без варыянтаў.

А. Д.: Быў адзін прадпрымальнік, які хацеў выдаваць беларускіх фантастаў тут, на Беларусі, але праект праваліўся, бо тыраж 3000 асобнікаў у Беларусі немагчыма прадаць. Нават прыгодніцкую кнігу, нават танна, нават там, дзе добры попыт.

А. С.: Пакуль народ неадукаваны, найважнейшымі з мастацтваў будуць кіно і цырк…

А. Д.: Пакуль не ўваб'ём у галаву школьнікам, што чытаць кнігі — гэта прэстыжна, а глядзець серыялы — гэта адстой, — да той пары ў нас не будзе вартых кніг. У нас няма добрага фільма — каб чалавек паглядзеў яго і ўзяўся шукаць кнігу, па якой гэты фільм зняты. У мяне быў цікавы выпадак, калі выйшла даволі спрэчная экранізацыя "Майстра і Маргарыты". Я пайшоў на рынак набыць дыск з фільмам — там малады прадавец, і ён мне кажа: "Вось, фільм добры, але вы, самае галоўнае, апавяданне прачытайце". У гэтага чалавека не было ўяўлення пра тое, што такое раман, а што такое апавяданне, але ён паглядзеў фільм — і прачытаў кнігу. Вось што трэба рабіць!

А. Л.: А ці можна зрабіць паспяховы фільм па вашых творах?

А. М.: Вядома, можна. Але гістарычная авантура — гэта касцюмы, гэта дэкарацыі. Такі праект, як "Брэсцкая крэпасць", абышоўся ў некалькі мільёнаў долараў, пры тым, што фінансаваўся ён з бюджэту. А гэта дастаткова вялікія грошы, якія "вярнуць" на тэрыторыю Беларусі немагчыма. Толькі калі мэтанакіравана працаваць пад касцюмы. Нават з расійскіх бюджэтных фільмаў за гэты год акупіліся толькі тры.

У. К.: Але вернемся да гісторыі. Вы, як фантасты, спрабуеце па-новаму паглядзець на падзеі…

А. М.: Мы жадаем напісаць рэальна, бо хочаш напісаць пра гісторыю — адкапай мемуары, пачытай. Прычым з розных бакоў. Вельмі шмат цікавага.

У. К.: Тады атрымліваецца звычайны гістарычны раман.

А. М.: Так, але гістарычны раман выдаць нельга. Як мне растлумачылі, бярэш нашага сучасніка, выпраўляеш яго туды, увальваеш у канву, і хай ён будзе мужным, моцным, але нічога асабліва не змяняе — усё, гэта мы табе выдадзім. Вось погляд сучасніка на гісторыю. Бо калі даваць толькі менталітэт чалавека XIV — XV стст., чытач не здолее атаясаміць сябе з тымі героямі.

А. С.: Але на Захадзе нармальныя гістарычныя раманы выходзяць нармалёва, без аніякіх "трапленцаў"…

А. М.: Яны выходзяць мала і зрэдку.

А. С.: Няпраўда…

А. М.: Вялікімі накладамі выходзяць альбо любоўныя раманы ў гістарычным антуражы ("ён пагладзіў яе карункавыя панталончыкі…"), альбо гістарычныя падробкі кшталту Дэна Браўна — калі ідзе корпанне ў гэтым самым, а выдаецца за таемныя спружыны гісторыі.

А. Л.: А як тады быць з Караткевічам?

А. Д.: Караткевіч — гэта класіка. Прычым "Дзікае паляванне караля Стаха" — што гэта, калі не фантастыка ў чыстым выглядзе? З "трапленцам", толькі з Пецярбурга. Дарэчы, "трапленец" — гэта не абавязкова наш сучаснік, гэта можа быць чалавек з іншай гістарычнай эпохі.

А. С.: Вельмі распаўсюджаны прыём. І ў братоў Стругацкіх хапае гэтых "трапленцаў". Неістотна, альбо ў мінулым, альбо ў будучыні. Бо гэта прыём, які дазваляе шмат выявіць, шмат убачыць іншымі вачыма.

У. К.: Караткевіч паўплываў на вашу творчасць?

А. Д.: Я не магу пісаць як Караткевіч… У яго ёсць аповесць "Сівая легенда" — 4 часткі. І раскрыта гістарычная эпоха. Створаны паўнавартасныя вобразы. Гэта геній!

А. С.: Ён, у адрозненне ад сваіх сучаснікаў, валодаў мовай — дасканалая мова, складаная.

А. Л.: А як наконт працягу традыцый Караткевіча сучаснымі беларускімі фантастамі?

А. С.: У літаратуры традыцыі не бывае. Калі яна ўзнікае, то чалавек робіцца эпігонам і самастойнай рэчы ніколі не створыць. Можна напачатку вучыцца, але калі ты ўжо адчуваеш сябе пісьменнікам, які склаўся, то традыцыі быць не можа. Калі яна з'яўляецца — гэта смерць літаратуры. Я так лічу.

А. М.: Кожная сучасная папулярная літаратура, у тым ліку фантастыка, патрабуе крыху іншага стылю выкладання, чым той, што быў прыняты ў часы Караткевіча. Цяпер трэба пісаць дынамічна, вобразы павінны раскрывацца хутчэй, павінна быць больш дзеяння, больш здарэнняў.

А. Д.: Караткевіч — гэта арыенцір. Ёсць планка, зададзеная Караткевічам. Хочацца пісаць не горш. Мне вось вельмі хочацца напісаць раман толькі на матэрыяле беларускай гісторыі.

Падрыхтавала
Алеся ЛАПІЦКАЯ

На здымку: Андрэй Мураўёў і Уладзімір Кулічэнка абмяркоўваюць новую кнігу.

Фота Кастуся Дробава



## Святлана ЛОКТЫШ

* * *

Так свята хочацца!
Сярод кароткіх дзён,
Што прыхаваў нам снежань белакрылы,
Знайшла адзін, сагрэты прамянём
Па-зімняму капрызнага Ярылы.

Я ў гэты дзень, які ў календары
Не пазначаўся колерам чырвоным,
Спрабую свята для сябе стварыць,
Дзе б стаў пейзаж зімовы светлым фонам.

Букет крамяных жоўтых хрызантэм,
Непараўнана яркі новы шалік
І вабны томік вершаў і паэм
Яўгеніі Янішчыц.
Чаша шаляў.

З будзённай шэрасцю паўзе ўгару.
Я ўсміхаюся сабе ў люстэрку.
Анёлак з-за пляча мне падміргнуў:
На аптымізм, маўляў, прайшла праверку.

Адказваю яму іскрыстым смехам:
Не выстудзілі радасць маразы —
Яшчэ жыве яна магутным рэхам
Былой красы.

### У вёску!

У вёску! Бурчыць-надзімаецца
Стары спрацаваны "жыгуль".
Ды толькі ўжо ўладныя пальцы
Намоцна ўпіваюцца ў руль.

У вёску! Увішна і радасна
Шчырые матуля даўно.
Раз-пораз ад спраў адрываецца,
Паглядвае моўчкі ў акно.

Хусцінка набок крыху з'ехала
І шчокі зарою гараць.
Румяныя дранікі весела
На зыркай патэльні сквірчаць.

Чыхае "жыгуль" наш надзьмуты.
Вакол — салаўіная цішь.
Спяшаецца мама насустрач.
Ля брамкі і ты не ўстаіш.

Прысядзем ля маміных дранікаў
За шчодра накрытым сталом,
І жмурыцца сытая раніца
Самлелым на сонцы катом.

* * *

Ціха навокал.
За шыбамі вокан —
Бэзавы сум на блакітных палотнах.
Ціха навокал.

Спеў салаўіны
Скаціўся з галіны
І — на паперу знакам чарнільным.
Спеў салаўіны!..

Музыка рыфмы,
Фантазія рытму
Не паддаюцца нудзе алгарытмаў.
Музыка рыфмы.

Вершы — як дзеці:
Шануеш іх, песціш,
Нават нязграбных — за лепшых у свеце.
Вершы — як дзеці…

* * *

Усё выразней лініі далоняў,
Усё пранізлівей пагляд вачэй.
Пакуль зіма не серабрыла скроні,
Ды подых яе чуецца бліжэй.
Упэўненымі сталі рухі, словы,
Настойлівымі — думкі пра нябыт…
Узрост не вылечыць пілюляй ці замовай —
Не пагукаць мінулае вясны.
Мой новы вобраз —
сталай мудрай цёткі —
Перанастройвае душэўны лад:
Другіх мелодый выпяваю ноты,
Па-іншаму ўспрымаю зарапад
І адгукаюся на новую прыхільнасць…

Гартаю з вышыні сваіх гадоў
Старонкі дзён, пакрытых пылам:
Хацела б я жыццё пражыць наноў?

Я пражыла б яго, хутчэй,
Зусім не лепш і не мудрэй…

* * *

За мітуснёй няпройдзеных дарог,
За кутасою будняў непагодных,
Бывае, не заўважу незнарок,
Які прыгожы ты, мой горад родны!
Які раскошны новы твой убор,
Пашыты з беласнежнейшых палотнаў!
І птушка на галінцы — знакам нотным
Зімовай п'есы пра нябёс прастор.
Мой ціхі гарадок над рэчкай Цной —
Мая любоў, жыцця майго прыстанак.
Няхай зіхціць вясёлкі над табой
І прамяністым будзе кожны ранак!

* * *

Знямеў пакой,
пакорлівыя цені
Застылі
і патух агарак свечкі.
Пад галавой — твае тугія плечы,
А з неба пазірае ў вочы вечнасць.
Камедыя жыццёвая ці драма?
Не сплю і, адчуваю, — ты таксама…
У грэшнай цішыні маўчым зацята,
І прарастаюць кволыя зярняты
Раскаяння.

* * *

…Проста я цябе чакала.
Хай няўмела і няўдала.

Сто дарог-расчараванняў.
Сто грахоў без пакаяння.

І капрызнай музы дотык.
І густое сіта плётак.

І абломкі, і развалы…
Як жа доўга я чакала…

* * *

Што, здаецца,
яшчэ ў жыцці нам трэба?
Верасковы дыван пад далонню неба,

Гаркаваты дымок
галавешак з кастра,
Парусінавы рай замест жытла,

Адпачынак гітары ад чуйных рук,
Дрэў-сяброў гаманкіх
чарадзейны круг.

Ціха дыхае ноч грудзьмі лагчын.
…Прытаіўся мой сон на тваім плячы.



## Іван КАПЫЛОВІЧ

* * *

Куды імчацца полем сані?
Завея — свету не відно,
Ды я ісці не перастану
У гэты бок, дзе лепш мне стане
Прыціхлым — без мяцеліц — днём.

Завея сілу набірала
І замятала санны след,
Як супакоіцца — не знала,
З усёю строгасцю пытала —
Іду я з чым у белы свет?

Баяўся збіцца я з дарогі
Што потым стала бальшаком:
Вяла да роднага парога
І да людзей вяла, да Бога,
Да слёз, што выціраў тайком.

Я прабіраўся скрозь сумёты
Да простай ісціны — як жыць
У час адчаю, адзіноты?
Я зразумею тое потым
І буду ў роздуме тужыць.

* * *

Да кветкі палявой,
Што вырасла на ўзмежку,
Прыходжу сам не свой
І не хаваю ўсмешку.

Прад кветкай палявой,
Нібыта прад іконай,
Суладных дум сувой,
І — кожная з паклонам.

Пяшчоту буду піць
Між васількоў уволю,
Размотваць буду ніць
Заблытанае долі.

На полі, на мяжы,
Кіпіць дзе цвет падбелу,
Час не ідзе — бяжыць
І вострыць думак стрэлы.

Дзе кветкі незабудкі
П'юць сіняву нябёс,
Дзень — быстракрылы, хуткі —
Мой вырашае лёс.

* * *

Мне трэба, я знаю, вярнуцца
Туды, дзе хачу прыхінуцца

Да дрэваў, да траваў, да поля —
Расстання пакутую болем.

Да вербаў мне трэба вярнуцца,
Што п'юць з ручая, не нап'юцца.

Спакону там дуб на пагорку
Вядзе, не спыняе гаворку

Аб тым, што пабачыў і знае,
Ён — веку легенда жывая.

Там крык жураўлёў на балоце,
І гай пажаўцеў у самоце.

У вёсцы — дубровы на ўскраі,
Вярнуся — той час прыгадаю,

Калі ад няласкі айчыма
Свет бачыў нядолі вачыма.

Вярнуся… Мне трэба вярнуцца
Туды, дзе я змог разагнуцца.

Там добрыя, чулыя людзі
Вяртанне маё не асудзяць.

* * *

Дарма шукаць зямнога раю
У неспакоі тлумных дзён.
Сябе я вечна дакараю —
Не так, не тое выбіраю,
Надзеі бераг не відзён.

І туманы на даляглядзе,
І хмарна будзе на душы.
Не хоча думка
з думкай ладзіць
І салавей у маім садзе
Ужо каторы дзень маўчыць.

Царкоўны крыж здалёк убачу
І на сябе крыж пакладу,
І будзе думаца пра ўдачу,
Пра гэты дзень,
што свет іначыць —
Размову з ім я паваду.



Фота Кастуся Дробава



## Яўгенія ДЗЯРКАЧ

Паэзію Яўгенія Дзяркач палюбіла з дзяцінства, а потым і сама пачала пісаць вершы, чаму, відаць, пасадзейнічала генетычная спадчыннасць — паэтэса даводзіцца траюраднай пляменніцай беларускаму пісьменніку Міколу Нікановічу, які ў 1944 годзе прапаў без вестак на фронце. Яўгенія Дзяркач жыве ў Смалявічах, выдала зборнік вершаў "Снежны букет", у "ЛіМе" друкуецца ўпершыню.

* * *

Быццам цуд, з'явілася.
І – зачаравала.
Ўсё багацце колераў
У сябе ўвабрала.

Ад праменняў сонечных
Аж пачырванела,
Жоўты саламяны
Капялюш надзела.

Косы свае рыжыя
Хваляй распусціла,
Вейкі сарамліва
Долу апусціла.

Боцікамі шэрымі
Па зямлі ступае.
На палетках жнівеньскіх
След свой пакідае.

Нездарма цудоўнай
Лічаць яе людзі:
Восень залатая,
Значыць, шчасце будзе.

### Восеньскія чары

Апалае лісце.
Пажоўклыя травы.
Маўкліва
Пад небам стаю.
Бясконцыя слёзы
З галінак бярозы
Цякуць у далоню маю.
Усмешка блукае
Па вуснах, па твары,
Як бытта навеяна сном.
І чырвань разліта
Па сонных абшарах.
П'яніць
Маладое віно.
Самоціцца ціха
Мой вырай лісцёвы.
Здалёк мастака пазнаю:
Знаёмая восень,
Што ў фарбах барвовых,
Малюе карціну сваю.

### Харaство

Выйду на ганак.
У вочы — прамень!
Ясны світанак.
Сонечны дзень.
Выбегу ў поле.
Вецер — у твар!
Жыта згінае
Калоссяў цяжар.
Сяду на беразе
Срэбнай ракі —
Вылецiць бусел
З густой асакі.
Позіркам кіну:
Лугі ды лугі…
Як жа люблю цябе,
Край дарагі!
Хочацца птушкай
Увысь узляцець,
Каб на Айчыну
Адтуль паглядзець.

# Сон

## Апавяданне



Юлія ЗАРЭЦКАЯ

“Добры дзень. Праходзьце, сядайце. Што вас турбуе? Распранайцеся… Давайце паглядзім… Так, тут мы зробім разрэз…” Пластычны хірург, прывабны мужчына гадоў пад сорак, праводзіў агляд чарговай пацыенткі.

Таня выключыла ноўтбук, але перад вачыма імгненна ўзнікла карцінка, якую бачыла ці не сотню разоў: вось жанчына ідзе ў клініку на аперацыю, вось хірург малюе на яе целе чорным маркерам, дзе і што будзе рэзаць, вось анестэзіёлаг пытаецца пра алергічныя рэакцыі на медпрэпараты, вось пачынае дзейнічаць наркоз… Уяўляць, што адбываецца далей, дзяўчыне не хацелася, і яна пераскочыла да прыемных кадраў: пацыентку, прыгожую і вясёлую, вітаюць сваякі, знаёмыя, сябры… Жанчына ўсміхаецца і кажа, што цяпер яе жыццё абавязкова перайначыцца…

Змяніць сваё жыццё марыла і Таня. Не сказаць каб даўно, але гадоў пяць — дакладна. З таго часу, як скончыла школу і паступіла ў тэхнікум. Вялікі і незнаёмы горад яе спачатку напалохаў. Усё было чужым, непрыязным, халодным… Але вясёлае, вірлівае студэнцкае жыццё хутка закружыла Тані галаву, уцягнула ў свой энергічны, непрадказальны рытм — і яна як быццам пасябравала з гэтым горадам. Модным, прыгожым, рознакаляровым…

Калі жыла з бацькамі дома, у вёсцы, Таня сабе падабалася. Невысокая, нават мініяцюрная, доўгія прамыя цёмна-русыя валасы, пяшчотны твар… Кавалераў хапала, адным словам. І запіскі пісалі, і з танцаў праводзілі, і кветкі дарылі. Але свайго адзінага Таня пакуль не сустрэла. “Відаць, не пара яшчэ, трэба пачакаць…” — супакойвала сябе дзяўчына і не нудзілася, бо маладосць і нуда не ходзяць разам, прынамсі, не павінны: рознага веку яны, не равесніцы.

Лежачы летам каля рэчкі на сакавітай траве, Таня любіла ўяўляць, як паедзе ў горад і спаткае там аднойчы яго. Яны выпадкова сутыкнуцца, зірнуць адно аднаму ў вочы — і зразумеюць, што гэта каханне. Яны будуць шмат гуляць, смяяцца, размаўляць… І ён здзівіцца (гэта абавязкова!), што яна не толькі прыгожая, але і разумная. Таня раскажа яму пра іншыя краіны, пра мінулыя часы — калі Зямлі было гадоў гэтак на тысячу меней, пра тых, хто жыў калісьці на ёй… Гэтыя мары былі такімі салодкімі і цёплымі, што Таня міжволі заплюшчвала вочы — і неўзабаве мроі і летуценні траплялі ў соннае царства. І лагодны летні ветрык перабіраў яе валасы, адганяў гарачыя сонечныя промні, пяшчотна кранаўся вуснаў, што ледзь-ледзь усміхаліся.

…— Дзяўчаты, зірніце, якая красуня! — Светка саскочыла з ложка і, падбегшы да стала, паклала на яго тоўсты часопіс, што змяшчаў ці не паўтысячы тонкіх, рознакаляровых, глянцавых старонак. — Вось гэта вусны! А вочы! А бровы!..

— Але, дзяўчаткі, сапраўдная прыгажуня! — уздыхнула Лена-Лянок, адарваўшыся ад канспекта. — Пашчасціла ж!

— Ну, і што там за краля? — усміхнулася Жана і адклала ўбок ноўтбук. — Мабыць, Анжаліна Джолі?

— Адкуль ты ведаеш? — здзівілася Светка.

— А што тут ведаць? — паціснула Жана плячыма. — Яна ж усюды — і ў часопісах, і ў Інтэрнэце, і ў кіно…

— Мне хоць бы адно толькі мець, як у яе — і я такой шчаслівая была б, — Светка прыціснула рукі да грудзей і ціха выдыхнула: — Вусны! Не тое што мае…

— А мне б — вочы! — прамовіла Лена. — Каб вось так — хлоп! хлоп! — яна замігала сваімі невялікімі бліскучымі зялёнымі вачанятамі, — і хлопцы — штабялямі!

Дзяўчаты засмяяліся.

— Наступны лот — нос! Не абы-які, а — грэчаскі! — абвясціла Жана. —Ну, тут зразумела — якраз Таньцы, — і торкнула пальцам у фота галівудскай прыгажуні. — Гэты не бульбінай!

Таня падышла да стала, зірнула на фота: сапраўды, грэчаскі. Пажартавала:

— Навошта мне грэчаскі, калі я беларуска? Мне наш добра.

— Вось і маеш бульбіну! — хіхікнула Жана.

Дзяўчаты яе не падтрымалі, і Светка паспешліва зашчабятала:

— Ай, дзяўчаткі, пажартавалі — і хопіць. Хай усё Анжаліне дастаецца! — і, перагарнуўшы колькі старонак, усклікнула: — Ой, гляньце: макіяж “Вусны, як у Анжаліны”! Трэба стойкі контур, памада, прафесійны памазок… — Светка маланкай рванула за касметычкай.

— Знойдзеш макіяж “Вочы-нос-бровы і г.д. ад Джолі” — заві! — ухмыльнулася Жана і, уладкаваўшыся на ложку, зноў уткнулася носам у ноўтбук.

Дзяўчат чакала першая, зімовая, сесія…

Здалі яе новаспечаныя студэнткі добра: рыхтаваліся ж! (Светка, праўда, два залікі з першага разу не здала. Але нічога: пачытала, падвучыла — і атрымала запаветны выкладчыцкі подпіс). А затым раз’ехаліся па хатах, па сваіх вёсках: набірацца новых сіл.

Таня таксама адпачывала. Смачна ела (маці, вядома, толькі самыя любімыя стравы дачушцы гатавала), гуляла, сядзела ў Інтэрнэце, з былымі аднакласнікамі сустракалася, чытала… Прачынаючыся раніцай на першыя “пары”, Таня марыла, як адаспіцца потым, пасля сесіі. Аднак цяпер чамусьці не спалася…

“Не ведала, Танюша, што ты такая кісейная паненка, — пакеплівала Таня з сябе, лежачы ў ложку і ўжо не намагаючыся заснуць. (А калі сам з сябе пацвельваешся, бачыш і ацэньваеш сябе быццам збоку, значыць, усё разумееш, значыць, усё, як кажуць, пад кантролем, значыць, няма чаго панікаваць.) — Дзяўчаты дурэлі, жартавалі, а ты набрала сабе ў галаву: “нос бульбінай” — і ўсё. Цяпер перажывай, нос сантыметрам вымярай, слёзы пралівай…”

Дагэтуль нос Танін нічым не вылучаўся і ні ў каго асаблівай увагі на сябе не звяртаў: нос як нос. Не ідэальны, вядома, але і не брыдкі. Ну, можа, трошкі кончык таўставаты. Але — можа, але — трошкі…

Таня ўзяла ў рукі пульт ад тэлевізара, націснула на зялёную кнопку. “Падары сабе новую скуру! Мы прадстаўляем інавацыйную серыю — альтэрнатыву эстэтычнай медыцыне. Імгненны прыкметны вынік! Мікрадэрмабразія і энзімны мікрапілінг…” — заклікала рэклама, дэманструючы прыгажуню з ідэальнымі прапорцыямі цела, светла-ружоваю скураю і беласнежнаю ўсмешкаю.

Таня пераключыла канал. “У ЗША штогод трыста тысяч жанчын павялічваюць грудзі, а амаль палова расіянак гатовая “падкарэкціраваць” свой твар ці цела з дапамогаю хірургічнага ўмяшання, — бадзёра балабоніла вядучая. — Сёння мы запрасілі ў студыю адну з іх, тую, якая адважылася на пластычную аперацыю, зрабіла крок да прыгожага жыцця. Вітайце — Вольга! Ёй 34 гады, па прафесіі — фінансіст, і яна павялічыла сабе грудзі”.

“Пасля нараджэння дзіцяці я перастала сабе падабацца. Цэлы год карміла дзіця грудзьмі… Пачала камплексаваць, стала няўпэўненай у сабе. Муж казаў, што я падабаюся яму такая, якая ёсць. А калі загаварыла пра аперацыю, нават прад’явіў ультыматум: ці ён, ці новыя грудзі. Але я пайшла да хірурга… Тры дні пасля аперацыі калола абязбольваючае, нават машыну было цяжка вадзіць — такі быў боль. Але ўсё прайшло, я шчаслівая, раскрылася як асоба, уладкавалася на новую працу і пазбавілася ад комплексаў!” — маладая рыжавалосая жанчына з радзімкаю каля вуснаў бойка сакатала ў камеру і ўсміхалася. Кофтачка з выразам на грудзях шчыльна абцягвала яе новыя формы…

“Ну і дурніца! — хмыкнула Таня і выключыла тэлевізар. — Выйшла замуж, дзіця нарадзіла, муж кахае… Чаго табе не стае? А яна: перастала падабацца, комплексы з’явіліся… Ды яны не з’явіліся, яны заўсёды былі — хаваліся недзе ў галаве, глыбока ўсярэдзіне таіліся. А раптам муж кіне, бо ў мяне грудзі малыя, і вусны тонкія, і бровы рэдкія?.. Страхі, страхі, страхі… На якіх прадпрымальныя дзялкі зарабляюць грошы. Можна павялічыць грудзі, паменшыць талію, “напампаваць” вусны — урэшце, давесці да ідэальнага стану ўсё знешняе. А што рабіць з унутраным? Чаму гэта маладзіца не галосіць: у мяне комплексы, бо я толькі гартаю гламурныя часопісы, гляджу серыялы і штодзённа падлічваю ў люстэрку маршчынкі! Я не чытаю кніг, мой унутраны свет бяднее… А ўвогуле — у які фанцік карамельку ні ўкруці, яна шакаладнаю цукеркаю не стане!” — пастанавіла дзяўчына і ніколі б не падумала, што некалі сама апынецца на месцы такой дурніцы з комплексамі.

— Мужчына, вы чаго на мяне ўтаропіліся? — Таня адчула, што пачынае закіпаць. Гэтага рабіць было нельга: кліент заўсёды мае рацыю, і эмоцыі свае трэба трымаць пры сабе, ды і камеры відэаназірання здымаюць, але спыніцца ўжо не магла. — Што, упершыню нос бульбінай бачыце? Ну дык разглядвайце! — Таня з выклікам глядзела на мужчыну.

— Прабачце, дзяўчына, але я не на нос, а на вас глядзеў, — разгублена прамовіў незнаёмец і ў той жа час удакладніў: — Зірнуў. Мне здалося, што вы мне лішнюю рэшту далі. Па-мойму, пяцьдзясят тысяч…

Прыгожыя наманікюраныя пальцы Тані задрыжэлі, ад падбародка чырвань імкліва хлынула ўверх, быццам пэндзлем, зафарбоўваючы светлы твар.

— Прабачце… калі ласка… дзякуй… — пралепятала дзяўчына, хаваючы ў куточках вачэй няпрошаныя, пякучыя слёзы. — Прабачце…

“Усё. Гэта ўсё… Дурніца. Псіхапатка… Цяпер цябе звольняць з працы… А праз тыдзень за пакой трэба плаціць… Што ты скажаш бацькам?.. Гэта ўсё…”, — праносіліся ў галаве адчайныя думкі, сэрца тухкала так, што, здавалася, чуюць усе навакольныя. Але праз некалькі хвілін Таня здолела ўзяць сябе ў рукі і супакоіцца. З твару спала чырвань, адно шчокі засталіся пунсовымі…

Гэты “эмацыянальны ўсплёск” начальства Тані даравала, зрабілі толькі заўвагу ды ўпікнулі ў нястрыманасці. Усё ж дзяўчына лічылася добрым, кваліфікаваным работнікам, заўваг і скаргаў раней не атрымлівала, паводзіла сябе як мае быць. Словам, спісалі ўсё на нервы. І, відаць, мелі рацыю.

Спецыялістам па аперацыйна-касавай рабоце ў гэтым абменным пункце, які размяшчаўся ў буйным, заўсёды шматлюдным гастраноме, Таня працавала больш як два гады. Трапіла яна сюды, лічы, адразу пасля заканчэння фінансава-эканамічнага каледжа. Работа падабалася, каб не адно але… Але — гэта вялізнае шкло, якое аддзяляла касіра ад кліентаў. У невялікай кабінцы не было куды схавацца ад людскіх вачэй. Пакуль Таня правярала купюры, лічыла грошы, раздрукоўвала чэкі, любы чалавек мог разглядаць яе колькі заўгодна. Дзяўчына была нібы тая банкнота, якую вывучаюць праз спецыяльную прыладу, каб вызначыць, ці сапраўдная. Тані падавалася, што яна фізічна адчувае, як яе разглядаюць, яна нават чула абрыўкі думак — невыразныя, рэзкія: “Я думаў, прыгажуня, а прыгледзеўся — э-не, фальшыўка… Але-але, я адразу запрыкмеціў гэтую загану… Хе, дык як тут не заўважыць, калі гэты нос…”

Гэты нос, які, калі ён быў зусім маленькім, любілі цмокаць бацькі (і калі ён падрос — таксама, толькі ўсё радзей: дзеці хутка вырастаюць і прагнуць стаць дарослымі, без лішніх сантыментаў і цмокання), які пазней любіў уткнуцца ў цікавую кніжку, а яшчэ праз колькі часу не цураўся і папудрыцца. Той нос, які быў звычайным, пакуль яго не назвалі “бульбяным”.

Дзіўна: хіба можна словам мяняць знешнасць? Ну, калі б Жана, напрыклад, сказала, што Таніны ногі растуць, як кажуць, ад вушэй, хіба яны падраслі б на дзясятак сантыметраў? Не, вядома, засталіся б ранейшымі. А калі сказаць, што нос, які дагэтуль сямнаццаць гадоў выглядаў прыстойна, падобны на бульбіну, няўжо ён стане такім? Але, стане. Слова — ці добрае, ці злое — валодае яшчэ і не такою сілаю.

…Жарцік той недарэчны, які прагучаў у студэнцкім пакоі перад першай сесіяй, Таня выкінула з галавы. Зноў закруціла вірлівае студэнцкае жыццё, новыя сябры, сустрэчы… Але калі да ўсіх дзяўчат, з якімі яна жыла ў пакоі, пачалі заходзіць нясмелыя кавалеры, з нейкага цёмнага закутка свядомасці вылез той самы жарт. І неўспадзеўкі перарос з жарту ў сум. Цяпер Таня сумавала дзень у дзень. Той адзіны, пра якога яна марыла, лежачы ўлетку каля ракі, усё ніяк не з’яўляўся і не зазіраў у вочы, каб убачыць у іх каханне. І чым больш мінала адзінокіх, самотных дзён, тым больш Таня пераконвалася: нос — гэта той, хто вінаваты ва ўсіх яе любоўных і жыццёвых нягодах. Такая чалавечая натура: заўсёды прагне адшукаць вінаватага. Мабыць, лягчэй жыць, ведаючы таго, хто робіць наша жыццё няшчасным. Нават калі яго няма і быць не можа…

І калі раней Таня называла няйнакш як дурніцамі тых, хто бег вырашаць свае праблемы да пластычнага хірурга, цяпер сама гатова была стаць адной з іх. Яна марыла пра цуд. (Казка пра Папялушку жыве ў сэрцы кожнай дзяўчыны.) А калі даведалася, колькі каштуе гэты цуд (дзівосы ў наш час прадаюцца, нібы бульба на кірмашы), пачала збіраць грошы.

“Калі я магу зрабіць сябе прыгожай, чаму я павінна адмаўляцца ад такога шанцу? Раз — і гатова. Быў бульбінай — стане грэчаскім. І беды абавязкова згінуць, і я стану ўпэўненаю ў сабе, і такою буду падабацца хлопцам. Яшчэ выбіраць буду!” — падбадзёрвала сябе дзяўчына і збірала, збірала грошы…

Аперацыя была прызначана на сёння. Таня хвалявалася. Але ўспамінала прыгожыя карцінкі з тэлевізара, шчаслівыя ўсмешкі пацыентаў — і супакойвалася. Яна таксама згадвала свой першы візіт да пластычнага хірурга, яго меладычны, спакойны голас, крыху незразумелыя тэрміны, тлумачэнні…

“Алергічныя рэакцыі ёсць? Што адчуваеце? Так і павінна быць. Усё добра. Зараз вы адчуеце… хутка… потым…”, — словы анестэзіёлага, якія дзяўчына спачатку чула выразна, цяпер сталі неакрэсленымі, далятала як быццам здалёк — і ў гэтую невядомую далеч неўзабаве адляцела і Таня.

З памяці выплывалі ўсялякія карцінкі, мяняліся, даносіліся нейкія галасы… І раптам дзяўчына апынулася ў невядомым горадзе. Яна сніла, што ішла па шумнай вуліцы. Навокал узнімаліся ў неба вышынныя будынкі — глянцавыя, дзіўных геаметрычных формаў, усё было стэрыльна чыста (Таня яшчэ падумала: быццам у аперацыйнай), праязджалі блішчастыя новенькія аўто, хадзілі людзі… Людзі… Стоп! Таня не адразу ўцяміла, чаму яе ўвага засяродзілася на іх. Вунь ідзе жанчына з хлопчыкам, відаць, з сынам, яны трымаюць у руках па марожаным і ўсміхаюцца, насустрач ім — закаханыя, ён пяшчотна абдымае яе, зазірае ў вочы, за імі тупае бабуля… О не! Жанчына, хлопчык, дзяўчына, хлопец, бабуля — яны ўсе на адзін выгляд! У іх чыстая скура, выразныя бровы, сакавітыя, пульхныя вусны, яны роўна трымаюць спіну, іх крокі пругкія і лёгкія. І твары — ідэальныя, дасканалыя, строга сіметрычныя, без ніводнай маршчынкі, плямкі ці радзімкі — адзін у аднаго…

Таня захацела ўцячы, прабегла некалькі метраў, спынілася, азірнулася наўкол — і нечакана яе позірк затрымаўся на вітрыне нейкага магазіна. У шкле Таня ўбачыла маладую дзяўчыну. Яе твар падаўся знаёмым. Не, ашукалася: выразныя бровы, сакавітыя, пульхныя вусны, чыстыя васільковыя вочы… Вочы! Памыліцца было нельга — гэта былі Таніны вочы. А значыць, яна стала такою, як яны: гэтыя людзі з ідэальнымі тварамі, аднолькавымі паставамі, лёгкаю хадою ў модным, прыгожым, рознакаляровым горадзе сноў…

Барысаўская цэнтральная раённая бібліятэка ім. І. Х. Каладзеева падрыхтавала для аматараў мастацтва адмысловы падарунак да Новага года. Тут, у мастацкай галерэі "З'ява", адкрылася выстаўка твораў Сяргея Лагачова пад назвай "Дэкаратыўны сімвалізм". Гледачы з рознымі густам і запатрабаваннямі не засталіся абыякавымі. Іх уразілі высокае майстэрства твораў і прыгажосць карцін, якія просяцца стаць часткай інтэр'ера. Але самыя тонкія ўражанні атрымалі тыя, хто чакаў сустрэчы з сапраўдным мастацтвам.





# Свет Сяргея Лагачова

Свет майстра насяляюць героі міфаў, казак, Евангелля, літаратурных твораў, дзякуючы якім ствараецца адчуванне рухомасці часу. Яны для аўтара маюць асаблівую каштоўнасць, бо з'яўляюцца ўражаннямі дзяцінства. Магчыма, толькі дзеці вераць у цуд, у тое, што рэкі і дарогі абавязкова прывядуць пілігрымаў і музыкаў (работы "Місія", "Вялікі канцэрт") у далёкі край, дзе за лясамі, за гарамі ёсць зямля, на якой яшчэ не скончыўся "залаты век" і дзе жыве мастак. Разам з ім — неардынарныя асобы: Дон Кіхот, барон Мюнхгаўзен, Казанова, Д'Артаньян, Каламбіна і Арлекін, з якімі ў майстра выбудоўваюцца зусім не простыя ўзаемаадносіны.

Матывы пошуку дабра, любові, праўды таксама цікавяць аўтара. Усё, што кранае душу, што варта ўвагі, знайшло адлюстраванне ў вобразах. Каб надаць змесцу глыбіню, двухсэнсоўнасць, іншасказанне, аўтар прыбягае да сімвалаў (дарога, рака, егіпецкая ладдзя, крыгі, ключы), пакідаючы гледачу і месца для здагадкі. Як сюжэт твораў, так і кампазіцыі — фантастычныя.

У пабудове кампазіцыі мастак зыходзіць з таго, што адно другому супрацьпастаўляецца, прыкладам, такія вобразы, як мужчына і жанчына ("Пара", "Шырма"), чалавек і жывёла ("Працэсія"), мастак і яго творчы вобраз ("Час блізнят", "Кентаўр"). Увядзенне арнаменту ў кампазіцыйны тэкст надае работам рытмічнасць, а плямы фарбаў, пераклікаючыся між сабою, складаюць мелодыю. Каларыстычнае вырашэнне абмежавана ўмоўнымі, амаль манахромнымі тонамі. Але дамініруючымі з'яўляюцца чырвона-ружовыя, якія надаюць творам сакавітасць, цяпло, выконваюць эстэтычную і этычную ролю дабра. Перавага чырвонага колеру над астатнімі — даніна захапленню аўтара мастацтвам Протарэнесансу.

Вынікам улюблёнасці Сяргея Лагачова ў дэкаратыўную творчасць старажытнага Усходу стала спасціжэнне выразнасці лініі, сувязь выяўляемага з надпісамі. Мастак многа працуе над удасканальваннем тэхнічных прыёмаў, падрыхтоўвае акрылавыя мастыкі, грунтуе палатно — матрыцу будучага твора. Выкананыя ў такой тэхніцы карціны знітоўваюцца ў адзіны паэтычны вобраз. Дзякуючы аб'ёмнай фактуры ўтвараецца ігра святла і ценю, аб'ёму і плоскасці, робячы форму яшчэ больш выразнай. Так ствараецца дэкаратыўнасць твора, якi ўяўляе сабою сінтэз узаемапранікнення графікі, скульптуры, жывапісу і музыкі…

"…Ідзі прыгожыя, колер смачны, тэхніка — ад майстра", — такі запіс у кнізе водгукаў пакінула мастачка, кандыдат мастацвазнаўства Наталля Царык. Мастак — заўсёды творца, і які б новы свет ён ні стварaў, ці то свет "дэкаратыўнага сімвалізму", ці які іншы, заўсёды застаецца летуценнікам.

Таццяна АНТРОПАВА,
культуролаг

На здымках: работы Сяргея Лагачова.

Працяг. Пачатак у № 47

# У люстэрку экрана

## Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» — 2010. Пастскрыптум. Кіно маладых

Калі верыць Вудзі Алену, самаадукацыя і асабістая зацікаўленасць — найважнейшыя рэчы для таго, каб здымаць кіно. Вялікі амерыканскі рэжысёр раіць глядзець як мага больш фільмаў, і ў нейкі момант яны ўвойдуць у плоць і кроў гледача. Што ж засталося ў галаве кінамана пасля тыдня "Лістапада"?

Конкурс маладога кіно паказаў, што нават першыя работы прадстаўленых рэжысёраў цікавыя і вартыя ўвагі. Гран-пры журы атрымаў фільм "Кастрычнік" Даніэля і Дыега Вега (Перу). У полі зроку братоў — замкнёны адзінокі чалавек, ліхвяр, жыццё якога пераварочваецца, калі выпадковая сувязь нечаканна атрымлівае працяг: сустрэтая жанчына падкідае яму немаўля і збягае. Клеманту нічога не застаецца, як перагледзець свае жыццёвыя каштоўнасці, узаемаадносіны з іншымі людзьмі, якіх раней ён успрымаў толькі як кліентаў, і заўважыць, што побач знаходзяцца людзі, вартыя яго любові.

Яшчэ адзін падкідыш знаходзіць сям'ю ў венесуэльскай стужцы "Брат" Марсэля Раскіна. Лепшы фільм на "Лістападзе", паводле ацэнкі гледачоў, уводзіць у свет неўладкаванага жыцця трушчоб, дзе амаль адзіны спосаб вырвацца — гэта футбол. Шаснаццаць гадоў таму адзінокая жанчына, якая з цяжкасцю магла пракарміць свайго маленькага сына Хуліа, узяла на рукі немаўля, пакінутае на сметніку: не змагла прайсці міма. Прыёмная сям'я стала для знайдыша роднай, разам са старэйшым братам ён пачаў займацца футболам. Аднойчы на вачах у прыёмнага сына сябра яго брата незнарок стрэліў і забіў маці Хуліа... Фільм раскрывае тэму ахвярнасці ў кантэксце выратавання жыцця.

У яшчэ горшых умовах, амаль без надзеі, існуюць героі стужкі "Самсон і Даліла" (Аўстралія). Яны жывуць у ізаляваным паселішчы абарыгенаў у пустыні цэнтральнай Аўстраліі. Тут адна праблема: як выжыць. І яе дастаткова, каб прымусіць гледача задумацца, выклікаць шчырыя эмоцыі. Рэжысёр, сцэнарыст, аператар і кампазітар у адной асобе, Уорвік Торнтан цалкам пагрузіўся ў гэты далёкі ад цывілізацыі свет — нібы сам адтуль родам. Бачна, што гэта не эксплуатацыя цяжкай тэмы, а споведзь пра набалелае, без дэкларавання маралі, лозунгаў і філасофіі: нездарма Торнтан здымае ў дакументальнай манеры. Два фільмы конкурснай праграмы маладога кіно былі адзначаныя спецыяльнымі дыпломамі журы: "Усе вы капітаны" (Іспанія) і "UDAAN" (Індыя). У іспанскай стужцы раскрываецца тэма складаных узаемаадносін еўрапейскага рэжысёра з падлеткамі выхаваўчага дома ў Марока, а герой індыйскага фільма не можа знайсці паразуменне з бацькам з-за таго, што хоча стаць пісьменнікам, бо ў аўтарытарнага бацькі свае планы на будучыню сына.

Падладзіць іншага пад сябе, нават эксплуатаваць яго, здаецца, зрабілася нормай у чалавечых адносінах. Пра гэта — "Дрэнны дзень для рыбалкі" Альвара Брэхнера (Уругвай — Іспанія). "Show must go on" ("шоу павінна працягвацца") нягледзячы ні на што. Інтрыга ў фільме закручваецца вакол рынга напярэдадні бою паміж знакамітым чэмпіёнам свету Якабам ван Опэнам і непрафесійным Марыё, якога пайсці на няроўны двубой вымушаюць абставіны: цяжарная нявеста. Удзел у гэтым шоу можа каштаваць яму жыцця альбо 1000 долараў у выніку перамогі над чэмпіёнам, з якім на рынгу "ніхто не вытрымае тры хвіліны"... У фільме ёсць пэўныя гуманістычныя ноткі, вартыя ўвагі. Непрабіўны, пазбаўлены ўсялякіх эмоцый менеджар чэмпіёна — Арсіні аказваецца здатным на спачуванне цяжарнай жанчыне, якую акалічнасці прымусілі ў роспачы падштурхнуць свайго мужчыну да ўдзелу ў спаборніцтве. Між іншым, Арсіні неўзабаве ўсведамляе, што чалавек, на якім ён як менеджар зарабляе грошы, не проста груда біцэпсаў…

Цікавай была і пазаконкурсная праграма ігравога кіно. Рэжысёрскі дэбют Людмілы Гурчанкі "Пярэстае змярканне" не толькі парадаваў гледачоў чарговай сустрэчай з улюбёнай актрысай, але, можна сказаць, напоўніў залу аўрай чалавечай дабрыні і чысціні. Падобны фільм пра жаночы лёс — "Зона турбулентнасці" Яўгеніі Цірдатавай (у конкурсе маладога кіно). Розныя лёсы жанчын прагучалі ў некалькіх паэтычных прыгожых стужках... Самымі адметнымі кінападзеямі фестывалю для мяне сталі стужкі "Я забіў сваю маці" Ксаўе Долана (Канада), "Адышоўшыя" Йохіра Такіта (Японія) і "Качагар" Аляксея Балабанава (Расія).

У праграме дакументальнага кіно гран-пры атрымаў фільм Вадзіма Яндрэйкі "Жанчына з пяццю сланамі" (Швейцарыя — Германія). Гераіня дакументальнай стужкі — жанчына ўнікальнага лёсу, вядомая перакладчыца Святлана Гаер, якая пераўвасобіла на нямецкую мову пяць раманаў Дастаеўскага і працягвае працаваць у свае 85 гадоў.

Марына ДОЎГЕР

## Радуемся разам

**У Мінску** адбылася прэзентацыя каштоўнай скрыпкі, набытай нядаўна Міністэрствам культуры краіны пры падтрымцы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі для таленавітай моладзі — выхаванцаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Гэты інструмент выраблены ў 1673 годзе славутым італьянскім майстрам Андрэа Гварнеры. Пра тое, што ў Беларусі трэба стварыць дзяржаўную калекцыю дыхтоўных музычных інструментаў, а яе пачаткам павінна быць хаця б адна добрая каштоўная скрыпка, загаварылі пасля XIII Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага. У ім, як вядома, удзельнічаў наш таленавіты малады скрыпач Арцём Шышкоў, які выступіў настолькі ярка, што атрымаў спецыяльны прыз журы. Прытым эксперты не сумняваліся: беларускі музыкант стаў бы лаўрэатам, калі б не падвяло надта сціплае гучанне самога інструмента, на якім ён іграў. Каб паспрыяць міжнародным конкурсным перамогам нашых маладых талентаў, кіраўніцтва краіны падтрымала ідэю купіць для Беларусі рарытэтную скрыпку. Яе пошукі працягваліся амаль тры гады. Інструменты з належнымі характарыстыкамі знайшліся ў адной з брытанскіх калекцый, а зрабіць канчатковы выбар даверылі лаўрэату міжнародных конкурсаў Арцёму Шышкову і яго педагогу, прафесару кафедры скрыпкі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Эдуарду Кучынскаму. Значную частку сумы на дарагую пакупку — каля чвэрці мільёна долараў — далі спонсары: ААТ "Нафтан" ды "Белтрансгаз". Зразумела, такая скрыпка вымагае адмысловых умоў захавання, выкарыстання, рамонту... На прэзентацыі ў Белдзяржфілармоніі інструмент прадставіла лаўрэат міжнародных конкурсаў Улада Беражная.



**Музей гісторыі** горада Гомеля парадаваў сваіх наведвальнікаў "Жанравымі замалёўкамі": пад такой назвай прадстаўлены тут свае фотаработы 2007 — 2010 гадоў Пётр Вінічак. Адзін з найталенавітых гомельскіх фатографаў, ён актыўна і паспяхова ўдзельнічае ў прафесійных конкурсах і ў выстаўках, сярод якіх "Крок насустрач" у Нацыянальный бібліятэцы Беларусі, "Дзіцячы альбом" у Палацы культуры Маладзечна, "Фота-манія" ў Калінінградзе (Расія) ды іншыя. Новую экспазіцыю складаюць спыненыя імгненні штодзённага жыцця.

**Рок-музыкант** з Мінска Аляксей Крэчат стаў лаўрэатам I міжнароднага конкурсу вакалістаў "Гран-пры Санкт-Пецярбурга". Гэтае ўнікальнае спаборніцтва сабрала больш як 200 прадстаўнікоў і акадэмічнага, і эстраднага спявання, прафесіяналаў і аматараў. Сярод выканаўцаў з больш як дзесяці краін А. Крэчат вылучыўся ў намінацыі "эстрадны вакал" (прафесіяналы) і атрымаў II прэмію. У трох конкурсных турах ён выканаў, адпаведна, уласную вакальную рокавую кампазіцыю, вядомую эстрадную песню "Лодка белая" і "I want it all" з рэпертуару групы "Queen".



Лана ІВАНОВА

На здымках: лаўрэаты міжнародных конкурсаў Улада Беражная і Аляксей Крэчат.



“Чырвоны аловак. Нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР” — назва манаграфіі, працу над якой завяршае доктар гістарычных навук Аляксандр Гужалоўскі. Яе тэма, безумоўна, — новая і цікавая для ўсіх, неабыкавых да гісторыі беларускага тэатральнага, філарманічнага мастацтва, самадзейнай мастацкай творчасці. І да гісторыі айчыннага кінематографа, які, дарэчы, сёння, 17 снежня, адзначае чарговы дзень свайго нараджэння. Аўтар даследуе механізм цэнзурнага кантролю відовішчаў у БССР, грунтуючыся на архіўных матэрыялах 1920-30-х гадоў. Прапануем увазе чытачоў выбраныя старонкі (у газетным варыянце) будучай кнігі вядомага гісторыка.

Аддзел мастацтваў “ЛіМа”

# Чырвоны аловак, або Пад пільным вокам

Адносіны паміж ідэалагічным кіраўніцтвам БССР і відовішчнымі ўстановамі ў 1920 — 30-я гады складваліся супярэчліва і драматычна. Відовішчныя мастацтвы БССР — тэатр, кінематограф, эстрада — займалі важнае месца ў культурным жыцці рэспублікі. Ад пачатку яны прыцягвалі павышаную ўвагу партыйнага кіраўніцтва з прычыны іх масавасці і даступнасці шырокім малаадукаванага насельніцтва, што адкрывала перспектыву для іх выкарыстання ў прапагандысцкіх мэтах. Гэта ў сваю чаргу вымагала жорсткага і ўсеабдымнага кантролю за імі. Да таго ж, сваім кадравым складам тэатры, кінатэатры, цыркі выклікалі падазронасць: у іх працавалі пераважна беспартыйныя інтэлігенты, “спадарожнікі”. Ад ідэалагічнага кіраўніцтва партыі паступалі ўстаноўкі, якія зводзіліся да засцярогі творчай думкі ад усялякіх контррэвалюцыйных праяў, усталявання прыярытэту выхаваўчых функцый над забаўляльнымі, а таксама аднолькавых эстэтычных стандартаў для ўсіх відаў мастацтваў.

У 1920-я гады дзяржаўнай палітыкай былі закладзены прафесійныя і нацыянальныя асновы савецкіх відовішчных мастацтваў. На працягу ўсяго перыяду правядзення НЭП яны перажывалі перыяд уздыму, разнастайнасці форм і жанраў. У той жа час партыйнае кіраўніцтва праз цэнзурныя органы фарміравала іх сервільныя якасці, татальную залежнасць ад дзяржавы. У лютым 1923-га паводле маскоўскага ўзору ў складзе цэнзурнага ведамства — Галоўнага ўпраўлення па справах літаратуры і выдавецтваў БССР (Галоўлітбела) быў створаны орган, прызначаны для кантролю відовішчаў — Галоўны камітэт па кантролі за рэпертуарам (Галоўрэпэрткам). Старшыні Галоўрэпэрткама дапамагала грамадская калегія, якая складалася з прадстаўнікоў Галоўлітбела, агітацыйна-прапагандысцкага аддзела ЦК КП(б)Б, паліткантролю ДПУ і вайсковага ведамства. Па меры неабходнасці калегія прыцягвала да сваёй працы прадстаўнікоў літаратуры, тэатра і кіно.

Тагачасны механізм кантролю за відовішчамі ў БССР дзейнічаў наступным чынам. На кожны тэатр, кінематограф, цырк, клуб у Галоўрэпэрткаме заводзілася ўліковая картка. Кожнай устанoве на рэгістрацыю давалася 7 дзён. У выпадку спазнення ўстановы прымусова закрываліся, а іх адміністрацыя падлягала судовай адказнасці. Арганізатары спектакля ці канцэрта за сем дзён да прэм'еры павінны былі звярнуцца па дазвол у Галоўрэпэрткам альбо яго павятовыя, а з 1924 г. акруговыя аддзяленні. Зварот змяшчаў поўны сцэнарый пастаноўкі і падаваўся ў трох экземплярах: адзін — у Галоўрэпэрткам, другі — у Галоўпалітасвету, якая на працягу 1920-х гг. ажыццяўляла ідэалагічнае кіраўніцтва відовішчамі, трэці — у ДПУ, сіламі якога каралі парушальнікаў. Два апошнія ведамствы ў выключных выпадках мелі права даваць дазвол на пастаноўку самастойна (у спрэчных выпадках арбітрам выступалі партыйныя органы). Адзін экземпляр звароту вяртаўся заяўніку з адпаведнай візай. Кантроль за відовішчамі на раённым узроўні ажыццяўлялі “рэпертуарныя тройкі”, якія складаліся з прадстаўнікоў райкамаў партыі, райвыканкамаў і міліцыі. Усе арганізатары відовішчных мерапрыемстваў былі абавязаныя прадастаўляць бясплатныя месцы ў зале для прадстаўнікоў Галоўрэпэрткама, Наркамасветы, выканаўчай улады і ДПУ.

Папярэдні кантроль ажыццяўляўся Галоўрэпэрткамам у выглядзе разгляду і зацвярджэння рэпертуараў тэатраў, цыркаў, кіно, выяўлення забароненых тэм (крытыка ўлады, выдаванне ваеннай тайны, паклёп, рэлігійны і нацыянальны фанатызм, парнаграфія), складання спісаў забароненых п'ес і кінафільмаў, а таксама распрацоўцы інструкцый. Наступны (альбо карны) кантроль уяўляў сабою нагляд і кантроль за ўсімі відовішчнымі ўстановамі, забарону і канфіскацыю шкоднай прадукцыі, а таксама рэпрэсіўныя меры ў адносінах да аўтараў і да цэнзараў, якія прапусцілі шкодную прадукцыю.

Да 1925 г. уласнай кінавытворчасці ў БССР не было. Кіназдымкі на тэрыторыі рэспублікі праводзілі хранікёры з Масквы і Ленінграда. У 1922 г. у Мінску было ўтворана Упраўленне па справах кінематаграфіі “Кінарэсбел”, а ў 1924 г. — арганізацыя “Пралеткіно”, якая займалася пракатам фільмаў. У той час большая частка сельскіх жыхароў БССР пра кіно наогул не мела ўяўлення, у гарадах чатыры пятыя рэпертуару складалі замежныя і рускія дарэвалюцыйныя стужкі.

12 снежня 1924 г. было створана Галоўнае ўпраўленне па справах кінематаграфіі і фатаграфіі (Белдзяржкіно), якое мела манапольнае права на пракат фільмаў на тэрыторыі рэспублікі. Яно ж давала дазвол на кіназдымкі ўнутранага жыцця БССР па ўзгадненні з НКУС. Кіраўнік Белдзяржкіно прызначаўся наркамам асветы і яму падпарадкоўваўся. На працягу першага дзесяцігоддзя існавання гэтую пасаду займаў былы кіраўнік відовішчных устаноў Віцебска А.Галкін. Адначасова са стварэннем Белдзяржкіно пры агітацыйна-прапагандысцкім аддзеле ЦК КП(б)Б паўстаў кінакамітэт, які, акрамя арганізацыйных і тэхнічных пытанняў, разглядаў і зацвярджаў змест сцэнарыяў. Напрыклад, са сцэнарыя кінахронікі БССР за 1925 г. членамі камітэта быў выкраслены сюжэт пра зноў прызначаных адказных работнікаў, выклікаў пытанні сюжэт пра знішчэнне ў Мінску старых яўрэйскіх могілак і брукаванне вуліц магільнымі плітамі.

Уласная беларуская кінавытворчасць пачалася ў 1925 г. з кінахронікі пра святкаванне 1 Мая. З гэтага часу ствараліся хранікальныя кінавыпускі, у якіх адлюстроўвалася грамадска-палітычнае жыццё рэспублікі.

У 1928 г. у Ленінградзе была створана кінастудыя мастацкіх фільмаў “Савецкая Беларусь”. Беларускае ігравое кіно фарміравалася ў няпростых умовах, несла на сабе адбітак часу. Ля вытокаў айчыннай кінатворчасці сталі два спрактыкаваныя рэжысёры — Ю.Тарыч і У.Гардзін. Непасрэдны ўдзел у станаўленні беларускай кінематаграфіі бралі маладыя літаратары М.Чарот, А.Вольны, Р.Кобец. Намеснік загадчыка Белдзяржкіно Я.Дыла адказваў за нацыянальны змест сцэнарнага матэрыялу. Рэальную сітуацыю з кінапракатам у БССР у 1925 г. малюе загадчык Белдзяржкіно А.Галкін у сваім лісце ў ЦК КП(б)Б: “Гледача не задавальняюць часта вельмі прымітыўныя агіткі савецкай вытворчасці, надта аднастайныя (усе на тэму грамадзянскай вайны) і часам антымастацкія і халтурна зробленыя; па-гэтаму заўважаюцца адмовы не толькі прафесійных кіно, але і клубаў браць карціны савецкай вытворчасці, што прымусіць Белдзяржкіно ў рэшце рэшт больш арыентавацца на замежную фільму, што вельмі непажадана”.

Першы мастацкі фільм, зняты Белдзяржкіно ў Ленінградзе — “Прастытутка” — быў невысокай мастацкай якасці, меў “заказны” характар (барацьба за новы савецкі быт), але прынёс кінатрэсту немалы даход. Пры зацвярджэнні сцэнарыя гэтага фільма сярод членаў кінакамітэта пры агітацыйна-прапагандысцкім аддзеле ЦК узніклі спрэчкі. Начальнік Галоўлітбела П.Арэшнікаў патрабаваў перанесці падзеі стужкі ў дакастрычніцкі час, Я.Дыла прапанаваў перадаць сцэнарый, які не мае дачынення да Беларусі, для рэалізацыі на маскоўскай кінафабрыцы. У выніку сцэнарый “Прастытуткі” быў прыняты да пастаноўкі з невялікімі зменамі — акцэнтам на барацьбе савецкай улады з прастытуцыяй. Цэнзурныя нажніцы не абмінулі славутую “Лясную быль”. Як вядома, гэтую стужку Ю.Тарычу ў 1926 г. дапамаглі зняць партыйныя і дзяржаўныя дзеячы, якія ў гады грамадзянскай вайны ўзначальвалі партызанскі рух на Беларусі: старшыня СНК БССР Я.Адамовіч, загадчык аддзела ЦК УКП(б) В.Кнорын, старшыня ЦВК БССР А.Чарвякоў, — за што Тарыч іх зняў у адным з эпізодаў фільма. У 1937 г. А.Чарвякоў і Я.Адамовіч скончылі жыццё самагубствам, годам пазней быў расстраляны В.Кнорын, а сцэну з іх удзелам з фільма выразалі.

У лютым 1928 г. агітацыйна-прапагандысцкі аддзел ЦК КП(б)Б склікаў партыйную нараду па пытаннях кіно, партыйнага кіраўніцтва беларускім кінематографам. Падчас падрыхтоўкі да нарады ў Мінску, Барысаве, Гомелі, Оршы і Віцебску прайшлі грамадскія дыспуты. У “тыповых” выступленнях, якія былі спецыяльна адабраныя для нарады і патрабавалі дэманстрацыі новага пралетарскага кіно, можна сустрэць галасы праўды: “Дзіцячы глядач запаўняе глядзельную залу нашых кіно (дзеці складалі палову савецкіх кінагледачоў таго часу. — А.Г.), калі дэманструюцца такія карціны, як “Індыйская грабніца”, “Чорны канверт” і г.д.”; “Калі дэманстраваліся карціны “Кляймо злачынства” і “Вялікі шлях”, мы бачылі, што большасць гледачоў падае на карціну “Кляймо злачынства”. Выступленні ўдзельнікаў грамадскіх дыспутаў дазваляюць таксама скласці ўяўленне пра культурны ўзровень працоўных мас, якія разглядаюцца ўдзельнікамі нарады як аб'ект ідэалагічнага ўздзеяння: “Калі на экране паказалася кавалерыя, вясковыя глядачы напалохаліся і паляглі”, “калі на экране паказаўся аўтамабіль і хутка знік, дык селянін падышоў да экрана, паспрабаваў навобмацак палатно і кажа: “Во нячыстая сіла, уласнымі вачыма бачыў аўтамабіль, а зараз яго няма”, “у нас ёсць шмат рабочых, якія яшчэ не разумеюць зместу кіна-карцін, для гэтага неабходна практыкаваць дэманстрацыю фільмы ў суправаджэнні лектара, які б тлумачыў рабочаму змест карціны”.

На працягу 1920-х гг. цэнзура відовішчаў давала прыбытак Наркамасвеце, што натуральна ўкладалася ў рэчышча новай эканамічнай палітыкі. За цэнзурны дазвол на правядзенне відовішчнага мерапрыемства спаганяўся грашовы збор: з прыватных асоб (антрэпрэнёраў і гастралёраў) — 1 рубель, з арганізацый і асоб, якія арандуюць памяшканні ў Наркамасветы — 50 капеек, з навучэнцаў — 20 капеек. Кожны цэнзарскі прагляд мастацкай стужкі абыходзіўся яе пракатчыкам у 1 рубель, камедыі (у залежнасці ад даўжыні) — ад 50 капеек да 1 рубля, дэтэктыва — у 1 рубель 50 капеек, фарса — у 3 рублі.

З'яўленне цэнзуры відовішчаў адразу ж сустрэла супраціў з боку іх арганізатараў і артыстаў. На працягу 1923 г. старшыня Галоўрэпэрткама Шматразова звяртаўся ў ДПУ з просьбамі пакараць вінаватых у арганізацыі недазволеных кінасеансаў, тэатральных пастановак, вечарын (“ладзяцца рознага кшталту відовішчы, нават маскарады і скокі”). 14 кастрычніка старшыня Галоўрэпэрткама Грэкаў звярнуўся ў ДПУ з просьбай прыцягнуць да суровай адказнасці артыстаў тэатра “Жаху” грамадзян Нясмелага і Анскага: “Першага за выкананне ў памяшканні Дзяржтэатра непрагледжанага Камітэтам маналога “Прамова адваката” і за заяву перад публікай на біс, што больш выконваць маналог не можа, бо яго рэпертуар яшчэ не прагледжаны мясцовай цэнзурай. Другога за зламыснае выкананне апошняга куплета ў дуэце “Няўдалае выступленне”, нягледзячы на тое, што Камітэтам гэты куплет быў выкрэслены”. Спрабуючы ўнікнуць забароны, рэжысёры прыносілі п'есы ў Галоўрэпэрткам напярэдадні іх прэм'еры, спадзеючыся, што прэм'еру не забароняць з эканамічных меркаванняў, улічваючы факт затрат дзяржаўных грошай на рэпетыцыйны працэс.

Заўсёды насцярожаныя былі адносіны цэнзуры да імкнення прадстаўнікоў нацменшасцей БССР наладзіць уласнае культурнае жыццё.

Партыйныя дырэктывы, што давалі асноўны палітычны кірунак рабоце цэнзараў, пакідалі ім адносную свабоду дзеянняў у галіне эстэтычнай і маральнай. Прыкладам такой эстэтыка-маральнай цэнзарскай “творчасці” можа быць забарона аддзелам агітацыі і прапаганды ЦК КП(б)Б дэманстрацыі ў лютым 1925 г. фільма “Прэзідэнт Самасадкін” (экранізацыя папулярнай тады ў СССР аперэты з вядомым савецкім артыстам аперэты і рэжысёрам Р.Яронам у галоўнай ролі) як беззмястоўнага. Са снежня 1924 г. Галоўлітбел катэгарычна забараніў правядзенне ў рэспубліцы касцюміраваных і танцавальных баляў. У тым жа годзе ў Слуцкай акрузе браліся на ўлік “на прадмет кантроля” грамафоны і грампласцінкі.

Пазітыўным бокам працы цэнзараў на працягу першага дзесяцігоддзя савецкай улады было пазбаўленне беларускай сцэны ад праяў нізкапробных твораў, якія валам абрынуліся на савецкую публіку перыяду НЭПа.

(Працяг тэмы ў бліжэйшых нумарах)

Аляксандр ГУЖАЛОЎСКІ,
доктар гістарычных навук

На здымку: від на фасад гукавога кінатэатра “Чырвоная Зорка” па вуліцы Савецкай у Менску. 1932.

# На ветраломнай паласе

Дзесьці там, у ваколіцах вёскі Вецявічы, што на Слонімшчыне, начамі скуголяць буйныя вятры, мяце марозная завея, а магчыма, у блізкіх пералесках халодны сцюдзёнаю пііпаўскаю парой і "воўк нема вые". Тут, у сваёй роднай вёсцы, жыве доктар філалагічных навук, паэт Мікола Арочка, чый творчы набытак даволі значны як у навуковым аспекце, так і ў паэзіі.

Пасля заканчэння Белдзяржуніверсітэта працаглы час ён працаваў у рэдакцыях часопіса "Сельская гаспадарка Беларусі" і газеты "Літаратура і мастацтва", быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры Акадэміі навук Беларусі. Нягледзячы на тое, што тлумны і шумны Мінск гэты няўрымслівы чалавек пакінуў у самым росквіце творчай сталасці, ягоны паэтычны голас добра чуваць і адтуль, з заснежанай сёння вёскі Вецявічы, дзе праходзіла галоднае і халоднае ваеннае дзяцінства будучага навукоўца і пісьменніка. Незадоўга перад сваім 80-гадовым юбілеем Мікола Арочка надрукаваў у "ЛіМе" вялікую падборку вершаў, якая засведчыла: ёсць яшчэ порах у парахаўніцах! Чытачы, бадай, у першую чаргу ў той падборцы звярнулі ўвагу на вось гэты хвалюючы, у пэўным сэнсе драматычны верш "Ці ўскрэснем":

Ва мне смыліць адчайнае пытанне,<br>Што мучыла Купалаву душу.<br>Пытанне — як укрыжаванне,<br>Якое ўсё жыццё ў сабе нашу.

Я з ім жыву у згодзе і нязгодзе.<br>Пытанне — нібы з Дрэва свету ліст.<br>Яно ў маім народзе —<br>Не адно стагоддзе<br>Для кожнага вятрыска нарасхліст.

Ці ўскрэсне люд душой, як ліст упаўшы<br>У міждарожжа гразкіх каляін?<br>Хтось, можа, ахрысціў яго прапашчым,<br>Ды мы з адных разлапістых галін.

З глыбінь узгадаваныя карэннем,<br>Нясём загадку вечных таямніц,<br>Дзе і працяг, і повязь пакаленняў,<br>З якімі жыць і падаць разам ніц.

Эпіграфам да гэтага верша невыпадкова ўзяты паэтычныя радкі Янкі Купалы: "Ці ўскрэснем мы, душою звяўшы, ўпаўшы, каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род?" Ужо ў маладыя гады паэт Мікола Арочка ведаў, з якога карэння трэба несці "загадку вечных таямніц". Асноўныя рысы яго паэзіі — пачуццё найвялікшай адказнасці перад часам і сабой, змаганне за сваю Беларусь, яе мову, культуру, будучыню нацыі. Першы паэтычны зборнік Міколы Арочкі — "Не ўсе лугі пакошаны" — выйшаў у 1958 годзе. Лірычны герой кнігі — сейбіт дабрыні, носьбіт духоўнасці. Другі зборнік "Ветраломная паласа" стаў плённым працягам ранейшых творчых пошукаў паэта. Трапная назва быццам падкрэслівае неспакойны, бунтоўны характар пісьменніка, які ўсё жыццё прабіраецца праз завалы па сваёй ветраломнай паласе. "Крылатае семя" — чарговая паэтычная кніга, гэта новы крок паэта ў спасціжэнні жыцця. Потым былі і многія іншыя цікавыя зборнікі паэзіі, сярод якіх вызначаецца кніга "Матчына жыта". Зямля, вёска, жытні колас — наогул любімая тэма паэта Міколы Арочкі. Хіба ж нават самы патрабавальны чытач адкіне гэты маленькі шэдэўр "Каласы ў хвартуху тваім":



Калі маці палетак свой жала,<br>Хвартушок саматканы брала.<br>Падтыкала за пояс ражкі<br>І пускала сярпок па загоне,<br>Поруч з ёй шчыравалі жанкі<br>Перад золатам нівы ў паклоне.<br>А паперадзе іх — хвартушкі,<br>З вышыванкамі беражкі!

А сярпок у матулі займісты,<br>Назублёны, у промнях наўскос,<br>Нырцаваў між сцяблін залацістых,<br>Скарб калосся з падхопам нёс,<br>Чыста нёс у наступнасць, вячыста!<br>Ды з іржышча скакаў каласок<br>Бы ў калыску — у хвартушок!

Кажуць: новы час — новыя песні. Зварот да перажытага ў вайну і гістарычнага мінулага паставіў Міколу Арочку ў шэраг выдатных паэтаў краіны. Творы, да якіх ён ішоў усё сваё жыццё, — драматычныя паэмы "Курганне", "Крэва", "Судны дзень Скарыны", "Каранацыя Мендаўга". Яны сталі значным здабыткам беларускай паэзіі, вылучылі Арочку як паэта эпічнага, філасофскага складу. Чытачам найбольш вядома драматычная паэма "Судны дзень Скарыны". З глыбінь XVI ст. лірычны герой выклікае дух беларускага асветніка з'явіцца на сваю пакутную зямлю, дзе і праз пяць стагоддзяў ідзе зацятае змаганне "за родны край, за мову і душу". Пра Францыска Скарыну Мікола Арочка гаворыць: "Я — родам з Адраджэння", але паэт гэтыя словы з поўным правам можа аднесці і да сябе, таму што чытачы ўжо даўно ведаюць яго як змагара за нацыянальнае Адраджэнне і росквіт роднай Беларусі:

Хоць люд мой не пад шатамі ў зацішку<br>Вядзе свой жыццядайны радавод,<br>Ды свежы ліст зялёную калыску<br>Рыхтуе зноў і туліць ад нягод<br>Спавітую, як немаўля, пупышку,<br>Каб выйсці ў свет з яе,<br>Пад родны небазвод,<br>Як сапраўды трывушчы<br>І здольны, неадольны<br>Род!

Сёння, віншуючы Міколу Мікалаевіча Арочку з 80-гадовым юбілеем, можна смела гаварыць пра вялікі ўклад, унесены творцам у беларускую літаратуру і філалогію. Акрамя зборнікаў паэзіі і драматычных паэм высока ацэнены літаратуразнаўчыя кнігі пісьменніка-навукоўца "Валянцін Таўлай", "Галоўная служба паэзіі", "Сучасная беларуская паэзія", "Беларуская савецкая паэма", "Саюз часу і майстэрства", "Максім Танк: Жыццё ў паэзіі", "Паэзія и война", а таксама яго пераклады з рускай, латышскай, польскай і англійскай моў.

Віктар ГАРДЗЕЙ

# Ключык да дзіцячых сэрцаў

Адна з вёсак у Шклоўскім раёне называецца Вялікія Лазіцы.

Адным з заснавальнікаў гэтай вёскі з'яўляўся дзед вядомай паэтэсы Ніны Галіноўскай. Дый бацька яе нямала парупіўся, каб былое хмызняковае месца хутка забудоўвалася. Цяслярскую справу ўпадабаў. Вось і атрымліваецца, што Н. Галіноўская — адзіная сярод нашых пісьменнікаў, хто мае дачыненне да ўзнікнення вёскі. Яна і сама паўстагоддзя рупна ўзводзіць дом. Праўда, не адна, а з іншымі пісьменнікамі, бо дом гэты асаблівы. Называецца ён беларуская дзіцячая літаратура. Для таго ж, каб ён станавіўся гмахам, неабходны намаганні многіх. Толькі пэўна можна сказаць: уклад Ніны Васільеўны ў гэтую супольную працу надзіва важкі і адмысловы.

Сёння Н. Галіноўская — адна са старэйшын беларускай дзіцячай літаратуры. Шмат кніг напісала. Адны назвы іх такія, што напаткаеш якую ў бібліятэцы, ні за што ўбок не адкладзеш: "Давайце пазнаёмімся", "Лясная зарадка", "Размова сняжынак", "Сяргейкаў парасон", "Зай-прагназіст", "Незвычайны карагод", "Восень едзе ў магазін", "Гусіны капялюш", "Палёт з Карлсанам" і іншыя. А чытаць пачнеш — адарвацца немагчыма. Настолькі цікава ўсё, займальна, а часам і з гумарам.

Прытым Ніна Васільеўна дасягае аднолькава высокага паэтычнага майстэрства як у традыцыйным вершы, так і ў казцы. А загадкі яе такія, што здзіўляешся багаццю творчай фантазіі. Яна так "хавае" асноўны сэнс, што, шукаючы адказ, шмат падумаеш-перадумаеш, пакуль даведаешся, якая ж адгадка закладзена ў аснову твора. Каб жа якую скорагаворку Н. Галіноўскай прамовіць, то доўга давядзецца старацца, таму што словы, гукі, як бывае ў гэтым жанры, проста-такі "нанізваюцца" адно на адно, ствараючы тое цэльнае, што і прамовіць цяжка. А яшчэ Н. Галіноўская піша жарты, небыліцы…



Адметнасць яе вершаў, пры ўсім іншым, і ў тым, што яна ўмее пра ўжо вядомае расказаць так непасрэдна, што ствараецца ўражанне навізны. Як у вершы "Непаслухмяная":

Перастала есці Машка.<br>Нос распух і дыхаць цяжка.<br>Абдымае батарэю —<br>То бачок, то спінку грэе.<br>Здагадаўся, што такое.<br>Грэю спешна малако я.<br>І туды кладу мядок.<br>Лыжка ў Машкі — язычок.<br>Малака пакаштавала,<br>Рот памыла-аблізала.

Канечне ж, гэта пра кошку. Але гэта твор і пра самога хлопчыка. Пра тое, які ён уважлівы, спагадлівы. Пра тое, як любіць "братоў нашых меншых". Ягонае прызнанне "Мне лягчэй, як сам хварэю" ў канцы верша гучыць натуральна, непасрэдна. Адчуванне такое, што ўсё прамаўляе не сама пісьменніца, а яе маленькі герой.

Да чаго традыцыйны герой твораў для дзяцей Дзед Мароз, але Н. Галіноўская і гэтым разам ні ў чым не паўтарыла іншых паэтаў. Больш за тое, знайшла нечаканы сюжэтны паварот:

Зоркі бачылі і Месяц —<br>Працаваў Дзед цэлы месяц:<br>Сеяў снег, рабіў ільдзіны,<br>Не гуляў ён ні гадзіны.<br>Так стаміўся дзед Мароз,<br>Сеў на снег каля бяроз.<br>З рота, з носа валіць пара<br>І плыве да неба хмарай.<br>Дыхаў-пыхаў,<br>не прыкмеціў,<br>Як узняўся цёплы вецер.<br>Дзед Мароз<br>бяжыць пад плот<br>І з разгону — у сумёт.

Каб такое напісаць, трэба нямногае, але разам з тым і многае: уменне глядзець на навакольны свет вачыма дзяцей, не страчваць пачуцця здзіўлення перад ім. А дзе здзіўленне — там і паэтычнае адкрыццё.

Творы Н. Галіноўскай таму і адметныя, што яна не проста валодае талентам, а і добра ведае псіхалогію дзяўчынак і хлопчыкаў. А таму і ведае, што ў свой час працавала выхавацелем дзіцячага сада. Дый, як прызнаецца, вельмі любіць дзяцей. Немалаважна і тое, што ў Н. Галіноўскай былі вельмі вопытныя, патрабавальныя, але разам з тым і надзіва добразычлівыя літаратурныя настаўнікі.

Найперш гэта класік беларускай дзіцячай літаратуры Васіль Вітка. Менавіта Цімох Васільевіч, з'яўляючыся галоўным рэдактарам часопіса "Вясёлка", апублікаваў на яго старонках яе творы, за якія і сёння Ніне Васільеўне не сорамна. Станіслаў Шушкевіч з прыязнасцю прарэцэнзаваў яе першую кнігу "Давайце пазнаёмімся". Ён не проста заўважыў маладую паэтэсу, але і паверыў у яе творчыя магчымасці. Зразумеў Станіслаў Пятровіч, што перад намі яркі талент і, як да любога таленту, да яго трэба ставіцца беражліва і ашчадна. А яшчэ добрым словам дапамагалі ёй Еўдакія Лось, Алесь Пальчэўскі, Сяргей Грахоўскі. Іхнія парады таксама шмат значылі на пачатку творчага шляху Н. Галіноўскай. Дый пазней ужо, калі набыла майстэрства, шмат друкавалася. Спагадлівае ж слова ніколі не лішняе. Асабліва для чалавека творчага, калі хочацца даведацца, якой думкі пра напісанае табой прытрымліваюцца больш вядомыя літаратары.

Ніна Васільеўна сама ўжо клапоціцца пра тое, каб не мялела рака беларускай дзіцячай літаратуры. Каб з'яўляліся ў ёй новыя імёны. Новыя творы. Каб і ў час усеагульнага захаплення камп'ютарамі цікавая, харошая кніга магла рабіць ім канкурэнцыю. Ёсць у Н. Галіноўскай чаму павучыцца. Па працы і пашана. Па працы, зразумела, творчай. Пра гэта сведчаць званні лаўрэата дзвюх прэстыжных літаратурных прэмій — Янкі Маўра і Васіля Віткі.

Пішуцца не толькі новыя творы, а і новыя кнігі. Рукапіс адной з іх называецца "Калі я шчаслівы". Калі мець на ўвазе напісанае Н. Галіноўскай, то смела можна сцвярджаць, што маленькі чытач (а гэта найперш дзеці дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту) шчаслівы тады, калі знаёміцца з яе кнігамі.

Вяртаючыся ў гады сваёй працы ў дзіцячым садзе, яна прызнаецца, што з задавальненнем чытала сваім выхаванцам творы Васіля Віткі. Пры гэтым зазначае: "Цудадзейныя, іскрыстыя, нібы снег пад снежанькскімі зорамі, пявучыя, нібы сініцы на абмерзлай рабіне, яны заварожвалі малышоў магіяй слоў і вобразаў". Гэтая высокая ацэнка добра стасуецца і да самой Н. Галіноўскай. Адно можна дадаць: болей бы такіх паэтаў у сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры.

Сімвалічна ўспрымаецца цяпер, на адлегласці часу, назва той рэцэнзіі на першую кнігу Ніны Васільеўны. "Ключык да маленькіх сэрцаў" — так назваў яе Станіслаў Пятровіч. Ключыкам да дзіцячых сэрцаў з'яўляецца і ўся творчасць Ніны Галіноўскай.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Ад кіёска да медыятэкі

**Пры Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна ўжо 14 гадоў працуе зала інфармацыі пра сучасную Францыю. Тут прадстаўлена больш за 10 тысяч кніг на французскай мове, каля 700 — на рускай і беларускай, шэраг перыядычных выданняў, дзве тысячы кампакт-дыскаў, вялікая колькасць аўдыё- і відэаматэрыялаў. Дзякуючы спадарожнікаваму тэлебачанню французскія тэлеперадачы наведвальнікі бібліятэкі глядзяць у прамым эфіры.**

Ідэя стварэння гэтай залы належыць саветніку па культуры і супрацоўніцтве пасольства Францыі ў Беларусі Франсуа Ларану. Каб бліжэй пазнаёміць Беларусь з творчым жыццём краіны, з яе велізарнай культурнай і гістарычнай спадчынай, у 1995-м у Мінскай абласной бібліятэцы паступова пачала стварацца зала інфармацыі пра сучасную Францыю. Спачатку існаваў звычайны кіёск, дзе была прадстаўлена галоўная прэса краіны (каля 35 найменняў). З часам пачалі закупляцца кнігі, з'яўляліся мастацкія творы сучасных французскіх пісьменнікаў, класічная літаратура. У 1996 годзе паміж аддзелам супрацоўніцтва і культуры пасольства Францыі і Мінскай абласной бібліятэкай імя А. С. Пушкіна было падпісана афіцыйнае пагадненне аб супрацоўніцтве і стварэнні франка-беларускай залы.



Пры падтрымцы пасольства Францыі ў Беларусі кожны год набываюцца новыя творы, папаўняецца медыятэка. Практычна ўся літаратура, якая прадстаўлена ў зале, закупляецца ў Францыі. Сярод самай запатрабаванай — сучасная мастацкая літаратура і методыка вывучэння мовы. Вялікай папулярнасцю карыстаецца і перакладная літаратура.

Пачынаючы з 2002 года ў рамках франка-беларускага праекта "Рухомая бібліятэка" былі адчынены 8 французскіх куткоў інфармацыі ў аддзелах замежнай літаратуры беларускіх бібліятэк: у пяці абласных, Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы, Бабруйскай і Полацкай гарадскіх бібліятэках. Сёння гэтыя французскія куткі ўяўляюць сабой маленькія цэнтры інфармацыі пра сучасную Францыю. Не толькі ў Беларусі, але і яшчэ шмат у якіх еўрапейскіх гарадах існуюць франкафонныя залы.

Кіраўнік французскай медыятэкі Марына Завадская патлумачыла: "Тут заўсёды праходзяць цікавыя творчыя сустрэчы, прыязджаюць літаратары і культурныя дзеячы Францыі. Напрыклад, у канцы лістапада да нас завітаў дырэктар Нацыянальнай студыі сучасных мастацтваў Францыі, вядомы французскі кінарэжысёр, пісьменнік, мастак і фатограф Ален Флэшэр. Зараз ён здымае новую дакументальную кінастужку пра падзеі Айчыннай вайны 1812 года. Таксама нядаўна ў зале праходзіў семінар па французскай мове для выкладчыкаў з Мінскай вобласці. Яго праводзіў прадстаўнік пасольства, аташэ па французскай мове Мішэль Максімовіч. Запомніліся сустрэчы з французскай пісьменніцай Лэйлай Сэббар. У зале заўсёды шматлюдна, сюды праходзяць розныя катэгорыі чытачоў: і даследчыкі гісторыі ды культуры Францыі, і тыя, хто жадае вывучыць мову, і хто проста цікавіцца, як жывуць людзі ў гэтай еўрапейскай краіне.

З 2005 года пры зале працуе франкафонны кінаклуб. Раз на месяц чытачы збіраюцца, каб паглядзець цікавыя фільмы на французскай мове. Рэгулярна праводзяцца паказы і для дзяцей. У хуткім часе плануецца адкрыць лінгвістычны клуб. Варта адзначыць, што нашыя чытачы вельмі актыўныя, таму заўсёды прымаюць удзел у такіх мерапрыемствах".

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымку: спецыялісты аддзела замежнай літаратуры прапануюць выданні на 40 мовах свету.



# Акно ў Парыж у цэнтры Мінска

**Дарадца Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Францыі ў Беларусі па пытаннях культуры і супрацоўніцтва Людовік Руайе чытачу "ЛіМа" знаёмы. Спадар Руайе ўдзельнічаў у выпуску, прымеркаваным да Мінскай міжнароднай кніжнай выставы-кірмашу: Францыя сёлета была ганаровым госцем. Але вядома, што гэтым двухбаковыя стасункі ў сферы кнігавыдання і прапаганды літаратуры не абмяжоўваюцца.**

Зала інфармацыі пра Францыю, якая дзейнічае ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, — адзін з паспяховых праектаў, якія рэалізуюцца агульнымі намаганнямі дзвюх краін. Наша цяперашняя размова — пра тое, як будзе развівацца праект у часе, ды пра сувязі паміж французскімі пісьменнікамі і беларускімі чытачамі.

— Спадар Руайе, якія перамены чакаюць залу інфармацыі пра сучасную Францыю ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна ў бліжэйшай будучыні?

— Вельмі хутка гэтая зала інфармацыі будзе мець новую назву. Тыя, хто ведае, што гэта французскі куточак, французская бібліятэка, медыятэка, — прыходзяць сюды. А тыя, хто хацеў бы знайсці літаратуру на французскай мове і не ведае, дзе яе шукаць, наўрад ці зразумеюць, што трэба ісці ў такую залу. Таму вельмі хутка зала інфармацыі пра сучасную Францыю будзе называцца працяй — французская медыятэка. Медыятэка — гэта значыць ёсць і кнігі, і кампакт-дыскі, і відэаматэрыялы.

— Што ж будзе дамінаваць?

— Магчыма, у вачах чытача я прадстану як чалавек несучасны, але я аддаю перавагу традыцыйнай кнізе. Яе можна чытаць і ў метро, і ў машыне (падчас пробак на дарогах), дома ў ложку. Электронныя кнігі таксама можна для гэтага выкарыстоўваць, але ж розніца вялікая! Як жа адчуць пах кнігі, патрымаць яе ў руках, пагартаць старонкі? Гэта вельмі важна. Вось, вы бачыце ў кабінеце дэкарацыі, якія засталіся ад нашай экспазіцыі на Мінскім міжнародным кніжным кірмашы — я хацеў у сябе ў кабінеце захаваць памяць пра яго.

— Калі мы ўжо загаварылі пра Мінскі кніжны кірмаш, дзе Францыя выступала ганаровым госцем, то хацелася б даведацца пра ўражанні французскіх пісьменнікаў і кнігавыдаўцоў ад сустрэч з беларускім чытачом. Што было традыцыйным у гэтых сустрэчах, а што — нечаканым?

— У нас быў стэнд прыблізна 200 квадратных метраў. Гэта вельмі многа. І мы зразумелі, што для Беларусі гэта вельмі важна. Мы стараліся, каб наша праца была зразумелая ўсім.

Што да аўтараў, то некаторыя з іх наведвалі Беларусь некалькі разоў. Цяпер мы актыўна рыхтуем наступны кірмаш, і гэта не зусім лёгка. Таму што многія, каго запрашаеш, не зусім уяўляюць, што такое Беларусь. Дзе знаходзіцца гэта краіна, як жывуць людзі. Але ўсім, хто ўдзельнічаў у кірмашы 2010 года, спадабалася. І краіна, і тое, што яны бачылі вакол, і гасціннасць тутэйшых людзей — усё было вельмі цікава. Да таго ж, з чытачамі адбыліся цёплыя размовы, шмат задавалі пытанняў, нават пра вельмі асабістае.

Я працую ў Мінску больш як 5 гадоў, мы сваёй камандай, таксама як і супрацоўнікі Пасольства Рэспублікі Беларусь у Парыжы, стараемся папулярызаваць вашу краіну, каб людзі ведалі, што паміж Польшчай і Расіяй ёсць такая краіна — Беларусь. Зусім не маленькая!

— Тым больш важныя ў гэтым працэсе крыніцы інфармацыі. Зусім нядаўна заключана пагадненне аб супрацоўніцтве паміж Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі і Нацыянальнай бібліятэкай Францыі, і ёсць спадзеў на тое, што абмен кнігамі і дакументамі стане больш актыўным.

— Так, і падчас гэтага візіту Прэзідэнта Нацыянальнай бібліятэкі Францыі сп. Бруна Расіна ў Беларусь было прынята рашэнне аб супрацоўніцтве па аднаўленні бібліятэкі І. Х. Каладзеева. Зразумела, гэта будзе віртуальная рэканструкцыя. Але калі ў нас у Францыі існуюць копіі такіх кніг, то гэта вельмі важна, каб беларускі чытач змог з імі пазнаёміцца і мы змаглі падарыць Беларусі копіі гэтых кніг.

— На вашым часопісным століку знаходзіцца выдатная кніга. Гэта "Барыс Забораў. Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь". Да яе выдання спрычыніліся сумесна міністэрствы культуры і камунікацый, замежных спраў Францыі і міністэрствы замежных спраў, культуры Рэспублікі Беларусь. І гэта не адзіная такая кніга, створаная ў супрацоўніцтве дзвюх краін. Існуе таксама праграма дапамогі публікацыям "Максім Багдановіч". Якія мастацкія творы і кім былі выдадзены апошнім часам?

— Гэта праграма нашага Міністэрства замежных спраў. У прынцыпе, у кожнай краіне, дзе знаходзіцца Пасольства Францыі, альбо Французскі культурны цэнтр, альбо Французскі інстытут, дзейнічае такая праграма.

Міністэрства падтрымлівае папулярызацыю французскай літаратуры ў замежных краінах, аплачвае права выдання гэтых кніг. На месцах, у тых краінах, дзе друкуюцца кнігі, таксама аплачваюцца выдаткі. Таму што калі размова ідзе пра выданне 200 альбо 300 экзэмпляраў, выдавецтвам такі наклад не выгадны. Нам жа важна, каб існавалі пераклады на рускай альбо беларускай мове, альбо на іншых мовах свету. Пры праграме "Максім Багдановіч" у 2010 годзе значыцца шмат кніг і публікацый. Гэта, да прыкладу, Эрык Эмануэль Шмідт "Евангелие от Пилата" (выдавец Зміцер Колас), Жак Дэрыда "Истина в живописи" (выдавецтва "Пропилеи"), Крысціян Гарсен "Торжество случая" (выдавецтва "Макбел"), Рэнэ Баржавель "Дороги Катманду" (РВУ "Літаратура і Мастацтва") і інш.

— Якая літаратура найбольш папулярная цяпер у Францыі?

— Літаратура ўсіх жанраў і напрамкаў. Бадай, акрамя класікі. Класіку чытаюць у школе альбо, пасля, ва ўніверсітэтах. Гэта абавязкова. А калі чалавек можа сам выбраць, што чытаць, ён выбірае нешта іншае. І лёгкую, сентыментальную літаратуру ў тым ліку.

— Што ж чакае сумесны з Мінскай абласной бібліятэкай праект, французскую медыятэку ў будучым?

— У нас добрыя, цёплыя адносіны са спадарыняй Наталляй Чуевай. Яна заўсёды падтрымлівала праект такога французскага куточка ў сваёй бібліятэцы. Гэта для нас вельмі важна. Супрацоўніцтва існуе з 1996 года, і гэта проста выдатна! Спадзяюся, што мы будзем супрацоўнічаць і надалей. Цяпер ужо ёсць таксама і перасоўныя бібліятэкі ў іншых гарадах Беларусі. Гэта значыць, што два разы на год мы наведваем гэтыя бібліятэкі і прывозім 500 — 600 кніг розных галін ведаў. Пакідаем іх на пэўны тэрмін, а пасля таго, як ён заканчваецца, забіраем гэтыя кнігі, а тыя, якімі цікавяцца, якія замаўляюць чытачы, прывозім.

Гутарыла
Ірына ТУЛУПАВА

# Сцежкамі Янкі Маўра

**Што рабіць дзецям, калі іх бацькі разгортваюць старонкі дарослых — навукова-папулярных, навуковых, мастацкіх кніг? Напэўна ж, узяўшы за прыклад сваіх родных і блізкіх, далучыцца да чытання.**

У Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна яно стала сямейным заняткам. Без малога дваццаць гадоў таму, а менавіта ў 1989 годзе, адбылося аб'яднанне Мінскай абласной бібліятэкі імя А. С. Пушкіна і абласной дзіцячай бібліятэкі. Цяпер бацькі і дзеці могуць разам наведваць установу.

Дзіцячы філіял імя Янкі Маўра, загадчык якога Любоў Вербава, мае свае неасспрэчныя здабыткі.

Конкурс "Юныя таленты Міншчыны" праводзіцца тут з 1975 года! І аб'ядноўвае юных аматараў прыгожага пісьменства, якія толькі робяць першыя няўпэўненыя спробы пяра, і іх дарадчыкаў — знаных творцаў. Гасцямі ў дзяцей і падлеткаў былі Раіса Баравікова, Міхась Пазнякоў, Уладзімір Ліпскі — творцы са сталіцы і ўсяго беларускага краю. Знаходзяцца таленты і сярод юных мастакоў.

Шмат пасяджэнняў прысвячаецца прапагандзе беларускай казкі — аўтарскай і народнай.

З 1998 года дзейнічае праграма "Кніжнае лета", калі кнігі дзеці могуць пачытаць у летніках і нават парках адпачынку. Бібліятэкары выязджаюць у паркі культуры і адпачынку імя Максіма Горкага і Чалюскінцаў, у арганізаваныя летнія лагеры для школьнікаў. Сёлета "Кніжнае лета" праходзіла пад дэвізам "У тым краі, дзе жывеш". І як не завітаць на адкрытыя прагляды літаратуры з прыгожаю назвао "Сонца на старонцы: чытаем разам"! Альбо не паўдзельнічаць у праграме "Экас" ды разам з усімі паклапаціцца пра сваё здароўе...

Чытачы ў дзіцячым філіяле з задавальненнем бяруць свае ўлюбёныя кнігі альбо перыядычныя выданні — тыя, што яны выбралі з вялізнага стоса: усяго тут — звыш 100 тысяч кніг, больш як 200 назваў газет і часопісаў.

Ірына ТУЛУПАВА



Выстаўка "Трансфармацыя. ДПМ-2010" — адна з асноўных падзей Рэспубліканскага праекта сучаснага выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Зямля пад белымі крыламі" — ладзілася ў сталічнай мастацкай галерэі "Універсітэт культуры".






# Новыя тэндэнцыі, новыя магчымасці

Як адзначыў на адкрыцці дырэктар галерэі, куратар выстаўкі Дзяніс Барсукоў, ідэя экспазіцыі — на прыкладзе твораў таленавітай моладзі прэзентаваць грамадскі стан і асноўныя тэндэнцыі развіцця сучаснага беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. І паказаць тое, чым работы малодых майстроў адрозніваюцца і павінны адрозніваца ад сваіх папярэднікаў, якія на працягу стагоддзяў стваралі цудоўныя ўзоры ДПМ. Але той час мінуў. Творчасць на тых канонах не супыняецца, а ідзе наперад, развіваецца, набывае новыя абрысы. Новы час прыносіць новыя матэрыялы, новыя мастацкія тэндэнцыі і новыя магчымасці для рэалізацыі сваіх ідэй і нават іншыя ўмовы існавання мастакоў, бо змяняецца рытм нашага жыцця. Каму як не маладым творцам, студэнтам і выпускнікам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і інш., адказваць на выклікі часу і ствараць новае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі.

Паводле слоў галоўнага спецыяліста ўпраўлення мастацтваў Міністэрства культуры Беларусі Аляксандра Зіменкі, ДПМ — тэхналогіі, якія адпрацаваныя стагоддзямі, і вельмі складана кожнаму новаму пакаленню, прыкладам, керамістаў, здзівіць гледача. Але ж гэта ім удаецца, яны знаходзяць новыя падыходы ў творчасці.

У сваю чаргу, прарэктар па інавацыйнай дзейнасці і мастацкай творчасці БДУКіМ Канстанцін Рэмішэўскі вызначыў прастору выстаўкі як прастору мастацкай свабоды. Той свабоды, якая дазваляе маладым аўтарам разняволена, вольна маніпуліраваць стылямі, матэрыяламі, спалучаць розныя тэхнікі дзеля дасягнення канкрэтнага мастацкага эфекту.





Увагу наведвальнікаў прыцягвалі разнастайныя, часам неардынарныя, работы: арт-аб'екты, роспіс па шкле, камп'ютарная графіка, вырабы з фарфору, кераміка, калекцыі адзення, батык, сярод якіх "Саксафон (матэрыялізацыя музыкі)" Марыі Барысенкі, "Тры дзікія мядзведзі", серыя "Публічныя імёны вялікіх жанчын" Надзеі Саяпінай-Гендрусевай, "Чырвань" Алега Боклага, "Ты мая птушка", "Рыбанька" Ганны Сілівончык, "Імкненне да дасканаласці" Вольгі Мешчараковай, "Несупадзенне" Валерыі Лазуровіч.

Змены мастацкіх прыёмаў і творчага мыслення маладых мастакоў беларускага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва натуральныя і заканамерныя, бо цяпер радыкальна змяніліся эканамічныя, сацыяльныя і побытавыя акалічнасці свету, у якім існуюць сённяшнія творцы. Наша жыццё вельмі адрозніваецца ад жыцця нашых продкаў. Мастацкі працэс нельга спыніць толькі на рэстаўрацыі і рэканструкцыі здабыткаў мінулага. "Трансфармацыя. ДПМ-2010" прадставіла творчае асэнсаванне маладымі аўтарамі ДПМ культурнай спадчыны, народных традыцый у сучасным кантэксце, а таксама поглядаў новай мастацкай фармацыі на развіццё дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі.

На адкрыцці выстаўкі таксама адбыўся паказ адмысловых, смелафантазійных мадэляў адзення маладых дызайнераў Кацярыны Гладковай "Экспрэс-дастаўка", Святланы Паграбной "Кацюша" і Талі Рутман "Расшпіленая папярок вясны".

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: Андрэй Руско "Бясконцасць"; Наталля Аджэр "Five o'clock"; Дзяніс Барсукоў "Generation Next, Next"; Надзея Саяпіна-Гендрусева "Брыджыт Бардо" з серыі "Публічныя імёны вялікіх жанчын"; Ганна Сілівончык "Домік каля мора".

Фота аўтара

# Вясёлка ў «Цётчыным доме»

**У сталічнай бібліятэцы імя Цёткі зноў наладзілі выстаўку мастака Міколы Бушчыка. Здаецца, самі сцены бібліятэчнай залы заіскрыліся новымі фарбамі, заззялі вясёлкавымі колерамі непаўторнага бушчыкаўскага жывапісу, быццам даўно чакалі гэтых карцін. Узаемакарысная, узаемапрыемная і цікавае супрацоўніцтва бібліятэкі і мастака пачалося некалькі гадоў таму. І працягваецца даволі плённа, бо ў "Цётчыным доме" працуюць зычлівыя, творчыя людзі, якія шчыра спрыяюць такім, як самі... Пацвярджэннем прагучалі прывітальныя словы дырэктара бібліятэкі Рэгіны Багамолавай ды яе вершы, якія сталіся падарункам-сюрпрызам для мастака.**

Мікола Бушчык заўжды актыўна ўдзельнічае ў выстаўках, бо яму ёсць чым уразіць гледачоў. Дастаткова заўважыць, што на сённяшні момант за гады сталага творчага жыцця ім створана каля тысячы палотнаў алейнага жывапісу і прыкладна паўтысячы акварэляў. Хто хоць трошкі ведае, што ўяўляе сабой працэс напісання карціны, зможа гэтыя лічбы ацаніць. Вядома, што для мастака найлепшая магчымасць паказаць свае дасягненні — іх публічная экспазіцыя. Дык вось, падлічана, што Мікола Бушчык браў удзел у амаль двюх сотнях выставак на радзіме і за яе межамі. Штогод ён радуе прыхільнікаў сваёй творчасці персанальнымі вернісажамі: у Мінску і ў гарадах Польшчы, Расіі, Германіі. А нядаўна Мікола Уладзіміравіч пачаў удзельнічаць у віртуальных выстаўках. Гэтым часам яго персанальная віртуальная экспазіцыя адкрыта ў сталіцы Нарвегіі Осла.

Творы Міколы Бушчыка захоўваюцца ў шматлікіх прыватных калекцыях у многіх краінах, а таксама многіх знакамітых музеях у Германіі, Італіі, ЗША, Расіі і, вядома, на радзіме. Праўда, якраз у Беларусі карціны гэтага мастака прымаліся не адразу. Колішнія чыноўнікі ад культуры баяліся яго дзёрзкасці і смеласці, лічылі такія творы небяспечнымі, баяліся яго ўплыву на іншых. І выстаўкі закрывалі, забаранялі паказваць творы. Так што "шлях да зорак" аказаўся не такі ўжо і просты. А М. Бушчык як быў, так і застаецца вольным мастаком, нягледзячы ні на якія перашкоды.

Гэтак жа застаецца ён адным з самых актыўных у Мінску мастакоў-экспанентаў. На гэта падчас адкрыцця ў бібліятэцы выстаўкі "Святло душы" звярнуў увагу сябра Міколы Бушчыка мастак Алесь Цыркуноў: "Адкрыццё кожнай новай выстаўкі — насамрэч цяжкая праца, якая нясе за сабою пэўнае "разарэнне": як матэрыяльнае, так і духоўнае, і фізічнае. Але Міколы, здаецца, гэта не датычыць: у яго такая багатая душа, такое яркае ад яе ліецца святло, што хапае і яму, і многім-многім іншым, хто дакранаецца да гэтай крыніцы...".

Так ужо сталася, што выстаўкай "Святло душы" ён ледзь не раней за ўсіх у Мінску пачаў рыхтавацца... да Новага года! Дакладней жа, да Каляд і Новага года, гэтых чароўных зімовых свят, якія так спрыяюць казачнасці, рамантычнасці, задуменнасці, лірычнасці. Таму і каларыстыка твораў на выстаўцы — адпаведная. Кожная карціна — як казка-роздум, кожная кампазіцыя — як філасофічная дзея. Час перад нараджэннем Хрыстовым — магчыма, лепшы час для мараў і летуценняў, для разважанняў і самааналізу. Пра ўсё гэта — карціны Міколы Бушчыка.

На выстаўцы "Святло душы" — работы розных гадоў, таму гледачы могуць скласці для сябе пэўнае ўяўленне, якім быў мастак у розныя перыяды сваёй творчасці. Між іншым, ён усё сваё жыццё лічыць падарожжам, бо ні на хвіліну не перапыняе назіранне за навакольным светам, сузіранне яго. Такая праца жывапісца, такое наканаванне...

Святлана АДАМОВІЧ

На здымках: Мікола Бушчык "Апошнія промні"; "Залаты звон".

Фота Святланы Берасцень





# Мастак — гэта стыль



Сталічная галерэя “Мастацтва” прадстаўляла юбілейную выстаўку жывапісу мастачкі Вікторыі Ільіной “Ад ускраіны да цэнтра”. Да слова, гэта пятая персанальная выстаўка творцы ў гэтых сценах. Назва, мабыць, паходзіць ад таго, што Вікторыя Ільіна нарадзілася ў Гродне, вучылася ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. Глебава, Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні станковага жывапісу. А пасля вярнулася ў родны горад, дзе выкладае ў дзіцячай мастацкай школе. Яе работы знаходзяцца ў разнастайных дзяржаўных музеях, прыватных калекцыях і галерэях.











На адкрыцці экспазіцыі, супастаўляючы словы “ўскраіна” і “правінцыя”, мастацтвазнаўца Мікалай Паграноўскі прыгадаў правакацыйную заяву Рэнуара, што сапраўдны мастак абавязкова павінен жыць у сталіцы. На самай справе ў культуры правінцыі не існуе. Гэта паняцце адміністрацыйнае, геаграфічнае, але ні ў якім разе не мастацкае. І дадзеная выстаўка пацвярджае гэта найлепшым чынам.

“Работы Вікторыі Ільіной пазнавальныя. А гэта вялікая справа. Творца — гэта асабісты стыль. І калі ёсць стыль — ёсць мастак. Вікторыя адметная шырынёй светапогляду. Ёй уласцівае не знешняе сузіранне, а заглыбленасць у нашы мастацкія традыцыі”, — падкрэсліў першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца.

Увогуле, адкрыццё выстаўкі ішло не па загадзя напісаным сцэнарыі — каму ў якой чарзе даваць слова. Шпацыруючы паўз вокнаў галерэі, сюды заходзілі цікаўныя людзі. Прыкладам, сваё захапленне карцінамі выказала турыстка з Санкт-Пецярбурга. Таксама выпадкова зазірнула “на агеньчык” беларуская паэтка Іна Снарская, якая цяпер жыве ў Палтаве, а ў Мінск прыехала па справах. Яна прызналася, што творчасць Вікторыі Ільіной па светаадчуванні вельмі блізкая да яе паэзіі, і “падарыла” мастачцы свой верш “Гармонія натхнення”.

На выстаўцы “Ад ускраіны да цэнтра” экспанаваліся работы, створаныя на працягу апошняга года ў жанры пейзажа, нацюрморта, сюжэтна-тэматычнай карціны.

Улюбёнасць у свой старажытны горад, захапленне беларускай прыродай — асноўны змест творчасці Вікторыі Ільіной. А яшчэ вёска Біскупцы, дзе ў дзяцінстве праводзіла лета Вікторыя. Бо Біскупцы — малая радзіма яе маці, выдатнай паэтэсы Дануты Бічэль-Загнетавай.

Творчасць Вікторыі Ільіной прасякнута шчырым пачуццём захаплення, зачаравання звычайнай рэчаіснасцю, уважлівымі адносінамі да навакольнага свету, вастрынёй і самабытнасцю ўспрымання. Мастачка выпрацавала сваю манеру пісьма, якая ўласцівая толькі ёй, і гэта зрабіла яе жывапіс своеасаблівым і запамінальным. Для яе характэрная імправізацыя з формамі, рытмамі, колерамі і фактурамі: элементы знаходзяцца ў складаным руху, вірую́ць, мігцяць і незвычайным чынам спалучаюцца ў цэласныя кампазіцыі. Гэта надае вобразам глыбокую эмацыянальнасць і напружаны дынамічны характар. Вікторыя Ільіна валодае тонкім каларыстычным пачуццём, якое ў спалучэнні з майстэрствам дапамагае ёй раскрыць перад гледачом дзівосны хвалюючы свет, які прымушае шчыра радавацца і сумаваць разам з аўтарам.

Жывапісныя палотны, прадстаўленыя ў экспазіцыі, апавядаюць пра мастака, які мае выразны стыль, эмацыянальную, часам экспрэсіўную пластыку выяўленчай мовы. Вікторыя Ільіна аднолькава любіць як гарадскія, так і сельскія матывы, пейзажы ды краявіды. Вобразы ў рознай каларыстычнай гаме то дакладна, амаль графічнымі мазкамі, вымалеваныя, то нібы не маюць межаў, пераходзячы, спалучаючыся і дапаўняючы адзін аднаго.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: работы Вікторыі Ільіной.

Фота аўтара



Мікалая Рыжыкава называюць няўрымслівым вандроўцам і кажуць, што да сваіх 70 гадоў аб’ехаў ён палову свету. Падарожнічаў па Амуры і ля далёкіх берагоў Байкала бываў: як будавалі БАМ, на свае вочы пабачыў. Гасцяваў у Арменіі і ў Непале. Знаёміўся са славацкім вінаробам, назіраў за працай разносчыка бананаў у Маўрытаніі. Дзівіўся на пражскія дахі ды снегавыя шапкі Гімалаяў... А колькі сцежак-дарог прыводзіла гэтага захопленага жыццём, нястомнага мастака да дзівосных куткоў Беларусі, да яе гістарычных, легендарных, святых і проста прыгожых мясцін! Азёрная Лепельшчына, магутныя муры Міра, жывы дыямент зямлі нашай — Нарач, шляхетная Пастаўшчына і самабытны беларускі поўдзень — Добрушскі раён, адкуль родам жонка Мікалая Максімавіча, вядомая мастачка, майстар габелена Валянціна Крывашэева...

# Пад ветразем Радасці





На хвалях свайго неспакойнага творчага лёсу Мікалай Рыжыкаў, пэўна, вандруе пад ветразем Радасці. Таму і дух яго творчасці такі пазітыўны, таму ён з аптымізмам вітае новае пакаленне мастакоў, таму яго калег прываблівае не частая для арт-асяроддзя зычлівая, шчырая, жыццярадасная атмасфера, якую нязмушана, самой сваёй прысутнасцю, стварае Мікалай Максімавіч. Да таго ж, не залежнае ад прафесійнага ўзроўню званне “добры чалавек” шчаслівым і рэдкасным чынам спалучылася з яго высокімі прафесійнымі якасцямі мастака. Так што невыпадкова сябры-паплечнікі абралі Мікалая Рыжыкава старшынёй творчай суполкі “Верасень”, а на сёлетнім яго вернісажы ў сталічным Палацы мастацтва гучала столькі цёплых слоў.

Народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі — сведка таго, як з маладога нясмелага пачаткоўца вырас Майстар:

— У Мікалаю Рыжыкаву сёння нібыта суіснуюць два мастакі. Адзін “расслабляецца”, адпачывае ў цудоўных акварэлях, другі ўзрушвае сваімі імпрэсіяністычна-гратэскавымі малюнкамі на тым узроўні, якога мала хто сёння дасягнуў. Застаецца толькі любавацца творчасцю гэтага сапраўднага, вялікага мастака.

Такую высокую характарыстыку дапоўніў заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Сяргей Волкаў:

— Цудоўны, рознабаковы мастак! Моцныя сангіны, малюнкі; лёгкія акварэлі; можа паказаць сябе ў афортах... Ведаеце, у творчасці не бывае пакаленняў старэйшых і малодшых. Ёсць мастакі і тыя, хто выстаўляе сябе мастаком. Мікалай Рыжыкаў — гэта мастак.

А вядомы жывапісец і педагог Васіль Сумараў, падкрэсліўшы, што сапраўдны мастак павінен быць і годным чалавекам, дадаў:

— Лепшага, добразычлівага гледача і калегу я не сустракаў. Мікалай Рыжыкаў — гэта сонечны чалавек. І прыемна, калі на тваю работу глядзяць добразычлівыя вочы...

Дарэчы, творы самога Мікалая Рыжыкава, для якога “ў разнастайнасці заключаецца цікавасць”, выклікаюць зваротную “сонечную” рэакцыю. Простая, але такая магутная радасць жыцця, з якой працуе мастак, міжволі напаўняе і тваю душу.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Мікалай Рыжыкаў “Доўгажыхар Сацэнік Лалабекян. Арменія” (папера, вугаль, сангіна); “Зімовы сад” (папера, акварэль); “Карлаў мост. Прага” (папера, туш).

Фота аўтара





По ініцыятыве Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы ў межах кампаніі па вылучэнні намінантаў на прэмію Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2011 — 1012 гады ў Магілёве адбылося пасяджэнне "круглага стала" на тэму "Традыцыйная культура народаў Беларусі і Расіі як крыніца развіцця беларуска-расійскіх творчых сувязей". Мерапрыемства — адно з шэрагу запланаваных. Яно праводзілася з мэтай актывізаваць творчыя аб'яднанні Беларусі і Расіі дзеля ўдзелу ў вылучэнні намінантаў на атрыманне прэміі.

# Дотык да духоўнасці продкаў

Гасцей прыняў раскошны Дом народнай творчасці. Вялікі, светлы, утульны, пабудаваны і абсталяваны з любоўю да людзей, якія захоўваюць і працягваюць традыцыі старадаўніх народных мастакоў, што жылі і стваралі вакол сябе казачна прыгожую прастору.

Падзякаваўшы гаспадарам за цёплы прыём, спецыяліст-эксперт Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы Людміла Курыловіч праінфармавала прысутных пра дзейнасць Камітэта, рэалізацыю апошніх культурных праектаў і, урэшце, засяродзіла ўвагу на мэце дадзенага мерапрыемства. Прысутныя даведаліся, што з 2002 года прэмія Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва тройчы прысуджалася пісьменнікам, чатыры разы — акцёрам, шэсць — мастакам і па адным разе — кампазітару, рэжысёру, дырыжору і архітэктару. Заснавальнікі прэміі звярнулі ўвагу на тое, што яшчэ ніколі не станавіліся лаўрэатамі оперныя спевакі, танцоўшчыкі балета, цыркавыя артысты. І гэтаксама ўвага адпаведных камісій абыходзіць пакуль людзей, якія займаюцца народнай творчасцю. А між іншым, вартых узнагароды людзей і калектываў нямала і ў Расіі, і на Беларусі, прычым, жывуць яны зусім не абавязкова ў сталіцы і буйных гарадах. З мэтай расшукаць магчымых лаўрэатаў спецыялісты з Камітэта ўжо правялі адзін "круглы стол" у Гродне, а таксама ў Маскве. Пасля ж Магілёва плануецца адпаведнае мерапрыемства ў Санкт-Пецярбургу і, магчыма, у некаторых іншых гарадах.

Суразмоўцы сустрэлі паведамленне Людмілы Курыловіч з вялікім энтузіязмам. Яны дзяліліся ўласным вопытам укаранення народнай музыкі, народных традыцый, аўтэнтыкі быту ў сучаснай культуры. І прыклады гэтыя выклікалі павагу і ўзрушэнне. Ацэньваючы незвычайна высокі ўзровень падрыхтоўкі самадзейных музычных калектываў Расіі і Беларусі, начальнік аддзела народнай творчасці Дэпартамента дзяржаўнай падтрымкі прафесійнага мастацтва і народнай творчасці Міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі Галіна Фурманава выступала за правядзенне маштабных музычных фестываляў. Старшыня Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута звярнуў увагу на тое, што карані народнай культуры беларускага і рускага народаў — адны, і пра тое распавядае фальклор і рэаліі быту тых рэгіёнаў, якія менш за ўсё падвярагаліся асіміляцыйнаму ўздзеянню неславянскіх плямён і народаў. Алена Коршунава, віцэ-прэзідэнт Міжнароднага дабрачыннага грамадскага фонду "Дыялог культур — адзіны свет", распавяла пра тое, як дзякуючы добрай ініцыятыве ўсяго толькі аднаго чалавека разгортваўся на тэрыторыі Калужскай вобласці фундаментальны праект "Этнасвет". Мэтай гэтага праекта стаў збор у адным месцы ўзораў традыцыйнага жытла ўсіх народаў свету. Праект, насуперак прагнозам скептыкаў, стаўся надзвычай папулярным для турыстаў, бо ў кожным з нас, асэнсоўваем мы тое ці не, жыве генетычная памяць продкаў, якая прываблівае нас звяртацца да традыцыйнай народнай культуры. Да размовы далучыліся беларускія навукоўцы Іван Крук і Аксана Катовіч, якія прапанавалі прысутным майстар-клас "Ручнік у прасторы беларускай культуры". Яны расказалі, што чырвоны арнамент па краях вясковых ручнікоў заўжды сімвалізаваў свет жывых, а белая сярэдзінка — нетутэйшы свет духаў. І паказалі, як продкі нашы згрaбна маніпулявалі ручнікамі, прымаючы ў жыццё нованароджанага, праводзячы з дому маладую, развітваючыся з памерлым членам сям'і.

А пасля ўдзельнікі "круглага стала" азнаёміліся з калекцыяй касцюмаў з саломкі, выканаwых навучэнцамі Горыцкай дзіцячай школы мастацкіх рамёстваў, а таксама з творчасцю дзіцячага фальклорнага калектыву "Вясёлыя лыжкары" і аўтэнтычнага калектыву Галавішчанскага клуба народнай творчасці Чавускага раёна. Ці стане хтосьці з іх у далейшым намінаваны на прэмію Саюзнай дзяржавы? Цалкам можа быць.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА



На здымках: у саламяных строі апранулі славянскіх багінь-берагінь юныя майстрыхі з Горыцкай школы мастацкіх рамёстваў. Вось якія яны вясёлыя, удзельніцы фальклорнага гурта з Чавускага раёна. Прыўзняты ў форме вясёлкі ручнік над галовамі жаніха і нявесты мусіў прынесці ім шчасце і дабрабыт, тлумачаць навукоўцы Іван Крук і Аксана Катовіч.

Фота Васіля Цітова

## У наступным нумары

1 студзеня 2011 года спаўняецца 150 год з дня нараджэння выдатнага беларускага вучонага і грамадскага дзеяча, акадэміка Расійскай акадэміі навук Яўхіма Карскага. З нагоды юбілею ў Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі праходзіць выстава «Спадчына акадэміка Я. Карскага: да 150-годдзя з дня нараджэння», пабачыла свет і аднайменнае электроннае выданне, на гістарычным факультэце БДУ прайшоў «круглы стол», прысвечаны праблемам вывучэння яго навуковай спадчыны. Больш падрабязна пра гэтыя праекты і мерапрыемствы мы раскажам у рубрыцы «Зямля пад белымі крыламі».

З глыбінкі

## Новы музей у Жыткавічах

Вынікам шматграннай працы, што праводзілася ў Жыткавіцкім раёне Гомельскай вобласці дзеля захавання памяці пісьменніка-земляка Міколы Гамолкі, стала адкрыццё ў сярэдняй школе №1 райцэнтра мемарыяльнага музея. Ва ўрачыстасці, якую чакалі не адзін год, бралі ўдзел кіраўнікі раённых органаў улады, творчая інтэлігенцыя, прадстаўнікі ветэранскай арганізацыі раёна, работнікі адукацыі і культуры, а таксама педагагічны і вучнёўскі калектыў школы № 1.

У стварэнні музея прымалі актыўны ўдзел родныя і блізкія Міколы Гамолкі, якія перадалі ў экспазіцыю асабістыя рэчы Міколы Іванавіча, мэблю, рукапісы і, зразумела, кнігі выдатнага празаіка. На цырымоніі адкрыцця прысутнічаў сын пісьменніка Васіль разам з жонкай. Ён шчыра дзякаваў усім, хто далучыўся да захавання памяці бацькі, які любіў жыткавіцкі край, усёй душой імкнуўся сюды ў цяжкія і шчаслівыя моманты жыцця.

Ад імя грамадскага аб'яднання Саюза пісьменнікаў Беларусі ўзяў слова член праўлення СПБ, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення пісьменніцкай арганізацыі Уладзімір Гаўрыловіч, які павіншаваў удзельнікаў свята і назваў імёны тых, хто з'яўляўся найбольш актыўнымі збіральнікамі звестак пра пісьменніка. Гэта загадчыца аддзела адукацыі райвыканкама Ганна Лукашэвіч і краязнаўца Алена Птушко. Выступіла на ўрачыстасці і сама Ганна Лукашэвіч, якая была асабіста знаёмая з Міколам Гамолкам. Яе светлыя ўспаміны пра пісьменніка, расповеды пра сустрэчы з яго блізкімі і роднымі падахвоцілі да ініцыявання райвыканкамам уключэння ў дзяржаўную праграму адраджэння Прыпяцкага Палесся такога ўнікальнага праекта, як літаратурны музей. І праект быў падтрыманы на ўсіх узроўнях, на яго сталіся выдаткаваныя сродкі. Ажыццяўлялі праект мінскія мастакі-афарміцелі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Федарэнчыка.

Водгукі самых першых наведвальнікаў новага музея — толькі пазітыўныя. Праца стваральнікаў ацэненая па заслугах. Асоба Міколы Гамолкі паўстае перад тымі, хто знаёміцца з экспазіцыяй, рэльефна, трывала, непасрэдна. І хочацца пайсці ў бібліятэку, і зноў узяць у рукі яго кнігі, і глянуць на творчасць пісьменніка па-новаму. А між іншым, адкрыццё музея — толькі пачатак. Экспазіцыя будзе дапаўняцца новымі матэрыяламі, тут будуць ладзіцца раённыя літаратурныя канферэнцыі і літаратурныя вечарыны.

Улад ПРЫАЗЁРНЫ

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3070
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 16.12.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 6056
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686